2 красавіка 2021 | № 13 (721)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы Час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Як абразіць прэзідэнта?
стар. 10

# Хто стварае пагрозу нацыянальнай бяспецы?



Аксана КОЛБ

**Якраз 25-м сакавіка датуецца пісьмовае папярэджанне Міністэрства інфармацыі ВУП «Час навінаў» — выдаўцу газеты «Новы Час». Такі вось падарунак рэдакцыі на Дзень Волі.**




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Што ж, у сённяшніх умовах гэта ўжо нікога не здзіўляе. Камусьці з тых, хто лічыць сябе ўладай і законам, здаецца, што калі ўсіх нязгодных перасадзіць за краты, а незалежныя медыя закрыць ці запалохаць, то ўсё будзе як раней — ціха, рахмана і беспакарана. Шкада, таварышы, але не будзе. А чаргovы доказ гэтага — менавіта тое, што вы спрабуеце рабіць. Папярэдзіць, пастрашыць, закрыць, забараніць. Што далей? Расстраляць? Я да гэтага гатовая, а вы гатовыя выконваць такія загады?

Чым жа так перашкаджаюць незалежныя медыя тым, хто лічыць сябе ўладай? Чаму ўжо колькі месяцаў ідзе сапраўднае паляванне на незалежных журналістаў? Кагосьці адмовіліся друкаваць, кагосьці пазбавілі статусу СМІ, а кагосьці наогул кінулі за краты. За што? За праўду. Таму што праўда сёння і ёсць найгоршае злачынства. Асабліва, калі яе хочуць ведаць мільёны.

Нам яшчэ, можна сказаць, пашанцавала. Мы атрымалі папярэджанне. І пакуль яшчэ можам выходзіць. Мінінфармацыі прадпісала нам выправіць парушэнні, якія мы здзейснілі.

А парушылі мы аказваецца «патрабаванні падпункта 1.3 пункта 1 артыкула 38 і падпункта 1.1 пункта 1 артыкула 49 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі"». І тым самым нанеслі «шкоду інтарэсам нацыянальнай бяспекі».

Прадстаўляю вашай увазе амаль цалкам тэкст папярэджання на мове арыгіналу:

«В соответствии с подпунктом 1.3 пункта 1 статьи 38 Закона Республики Беларусь от 17 июля 2008 года N2 427-3 "О средствах массовой информации" (далее — Закон о СМИ) в средствах массовой информации, на интернет-ресурсах запрещено распространение информации, направленной на пропаганду войны, экстремистской деятельности или содержащей призывы к такой деятельности, порнографии, насилия и жестокости, в том числе пропагандирующей или побуждающей к самоубийству, другой информации, распространение которой способно нанести вред национальным интересам Республики Беларусь или запрещено Законом о СМИ, иными законодательными актами Республики Беларусь.

В нарушение вышеуказанной статьи Закона о СМИ в газете "Новы Час" были размещены следующие статьи:

*"Чаму дыялогу не было, няма і не будзе" стр. 4, номер 3 от 22 января 2021 г.;*

*"Крымінальны" 2020-ты. Як і за што пратэстоўцы атрымлівалі тэрміны зняволення" стр. 5, номер 3 от 22 января 2021 г.;*

*"Пакуль мяне дапытвалі, побач збівалі людзей, і нікога гэта не бянтэжыла" стр. 6-7, номер 3 от 22 января 2021 г.;*

*"Тэта для ўлады" стр. 3, номер 4 от 29 января 2021 г.*

Согласно Решению Межведомственной комиссии по безопасности в информационной сфере при совете Безопасности Республики Беларусь (далее — Межведомственная комиссия) от 1 марта 2021 г. содержание вышеуказанных статей целенаправленно способствует формированию источников угроз национальной безопасности, заключающихся в искусственном нагнетании напряженности и противостояния в обществе, между обществом и государством (абзац 5 пункта 29 Концепции национальной безопасности Республики Беларусь, утвержденной Указом Президента Республики Беларусь от 9 ноября 2010 г. NQ575 (далее — Концепция национальной безопасности)), изменении шкалы жизненных ценностей молодого поколения в сторону ослабления патриотизма и традиционных нравственных ценностей (абзац 12 пункта 32 Концепции национальной безопасности), распространении недостоверной или умышленно искаженной информации, способной причинить ущерб национальным интересам Республики Беларусь (абзац 2 пункта 34 Концепции национальной безопасности).

Формируемые источники угроз, в свою очередь, обуславливают возникновение реальных и потенциальных угроз национальной безопасности, к которым относятся посягательство на конституционный строй (абзац 2 пункта 27 Концепции национальной безопасности), дезорганизация системы государственного управления, создание препятствий функционированию государственных институтов (абзац 16 пункта 27 Концепции национальной безопасности), деструктивное информационное воздействие на личность, общество и государственные институты, наносящее ущерб национальным интересам (абзац 20 пункта 27 Концепции национальной безопасности), резкое или масштабное снижение доверия граждан к основным государственным институтам (абзац 27 пункта 27 Концепции национальной безопасности).

Таким образом, вышеизложенные публикации газеты "Новы час" создают предпосылки для воспрепятствования обеспечению эффективного функционирования государственных институтов в интересах общества (абзац 4 пункта 9 Концепции национальной безопасности), реализации конституционных прав граждан на получение, хранение и распространение полной, достоверной и своевременной информации (абзац 2 пункта 14 Концепции национальной безопасности) и эффективному информационному обеспечению государственной политики (абзац 6 пункта 14 Концепции национальной безопасности), то есть могут нанести вред национальным интересам Республики Беларусь в политической (пункт 9 Концепции национальной безопасности) и информационной (пункт 14 Концепции национальной безопасности) сферах.

Межведомственной комиссией сделан вывод о том, что информация, опубликованная в газете "Новы час" (№3 от 22.01.2021 и №4 от 29.01.2021), способствует нанесению вреда национальным интересам Республики Беларусь».

Мінінфарм піша: «Ліквідаваць названыя парушэнні неабходна пры выпуску чарговага нумара газеты "Новы час", аб чым праінфармаваць Міністэрства інфармацыі не пазней 5 красавіка 2021 года».

Як іх ліквідаваць, не сказана. Ці то адклікаць усе асобныя газеты і спаліць? Ці напісаць, што ў гэтых артыкулах усё не праўда? А яшчэ цікава, што ад гэтага зменіцца. Дзяўчына Паліна, якая прайшла праз маральныя і фізічныя катаванні, раптам захварэе на амнезію і больш не ўспомніць усе здзекі? Шматлікія абсурдныя прысуды апошняга часу раптам стануць законнымі? Калі так, то, шаноўныя чытачы, лічыце, што ўсё, што вы ўбачылі ў вышэйзгаданых артыкулах у №3 і № 4 «Новага часу» «можа спрыяць нанясенню шкоды нацыянальнай бяспецы», таму лепш забудзьце, нікому не расказвайце і больш не чытайце.

Хаця мне здаецца, што шкоду нацыянальным інтарэсам маёй любімай Беларусі наносяць зусім іншыя дзеянні.

# Кобрынцы выступілі супраць звальнення вядомай лекаркі Юліі Рафаловіч

Марат ГАРАВЫ

**Жыхары Кобрына пачалі збор подпісаў супраць звальнення паважанай дзіцячай доктаркі Юліі Рафаловіч.**

Яна была затрыманая 24 сакавіка ў межах справы па артыкуле 24.23. Для спадарыні Юліі гэта ўжо трэцяя адміністрацыйная справа за выказванне сваёй нязгоды з фальсіфікацыяй вынікаў прэзідэнцкіх выбараў і гвалтам сілавікоў. Ранейшыя затрыманні лекаркі суправаджаліся пагрозамі яе звальнення з працы, завядзення на жанчыну крымінальнай справы, стварэння праблемаў мужу на працы, адмовы сыну Аляксею, які вучыцца ў Польшчы, права перасекчы мяжу ды вярнуцца на радзіму (10 жніўня 2020 года ў Кобрыне сын Юліі Рафаловіч быў затрыманы, збіты і асуджаны на 15 сутак).

Нагадаем, 26 сакавіка за заклік да ўдзелу ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве суддзя Вадзім Здановіч пакараў Юлію Рафаловіч 7 суткамі арышту. Ізалятар часовага ўтрымання Кобрынскага РАУС, дзе адбывае пакаранне лекарка, мае непрымальныя ўмовы ўтрымання грамадзянаў. Гаворка, між іншым, вядзецца пра завялікі шум ад дзеючай вентыляцыі, што аніяк не ўплывае на ачыстку паветра ад тытуню і ягонага паху. Супрацоўнікі ІЧУ праводзяць дэзінфекцыю шляхам апырсквання пасцельнай бялізны і змесціва перадачаў, дзе ёсць прадукты харчавання, у выніку імі непрыемна карыстацца. Апроч таго, сведкі адзначаюць холад у камерах, адсутнасць элементарных гігіенічных прыстасаванняў, апроч крану з халоднай вадой вельмі непрыемнага паху, адмову перадаваць закратаваным пітную ваду, немажлівасць есці ўсё з арыштанцкага рацыёну, апроч кіпеню з хлебам, пастаяннае электрычнае асвятленне камеры, шматлікія факты псіхалагічнага ціску і іншыя праявы негуманнага стаўлення да арыштаваных, прыніжаючага чалавечую годнасць.

На пачатку лістапада 2020 года на сустрэчы з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад 12 выбарчай акругі Васілём Дземідовічам кобрынцы ўзнялі пытанне паляпшэння ўмоваў утрымання грамадзянаў у мясцовым ІЧУ. Наконт гэтай праблемы, паводле адказу дэпутата, ён размаўляў з прадстаўнікамі выканаўчай улады, але дагэтуль санітарна-гігіенічныя ўмовы ўтрымання грамадзянаў у названым ІЧУ аніяк не змяніліся, апроч дазволу на перадачу пітной вады.

Што да Юліі Рафаловіч, то грамадзянаў асабліва занепакоіла інфармацыя, што вядомую дзіцячую лекарку, якая вылучаецца сваімі дзелавымі і чалавечымі якасцямі, збіраюцца звальняць з працы. Таму неабыякавыя кобрынцы пачалі збор подпісаў супраць звальнення спадарыні Юліі.

У адкрытым лісце на імя галоўнага доктара Кобрынскай цэнтральнай раённай лякарні Міколы Брашко падпісанты ліста выказваюць катэгарычную нязгоду з намерам кіраўніцтва лякарні звольніць Юлію Рафаловіч за яе актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Кобрынцы высока ацэньваюць 23-гадовую сумленную і бездакорную працу спадарыні Юліі, партрэт якой упрыгожваў Дошку гонару лякарні, шчыры клопат педыятра пра будучыню дзяцей. «Сваімі падаткамі мы аплачваем працу работнікаў аховы здароўя і маем права самі вырашаць, каму даваряць здароўе і жыццё нашых дзяцей», — падкрэсліваецца ў лісце.

Яго падпісанты звяртаюць увагу, што грамадзянская пазіцыя спадарыні Юліі, яе нязгода з гвалтам і несправядлівасцю ў краіне ніякім чынам не ўплываюць на выкананне доктаркай сваіх прафесійных абавязкаў. А асуджэнне педыятра на 7 сутак за ўпрыгожванне дрэваў стужкамі да Дня Волі грамадзяне ўвогуле лічаць «абуральным і недапушчальным».

Падпісанты просяць Міколу Брашко падтрымаць зварот і не дазволіць звальнення выбітнай доктаркі, якую любяць шматлікія маленькія пацыенты і іхнія ўдзячныя сваякі.

## ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# «Змены і мары нельга звярнуць назад»

**Апошнім часам перапіска з палітвязнямі замарудзілася. Значна зменшылася колькасць лістоў, што даходзяць за краты. Аднак людзі не спыняюцца і па-ранейшаму штодзень пішуць тым, хто па той бок кратаў. Некаторыя лісты перадаюць у рэдакцыю.**

***

**Кіму Самусенку:**

Коханий!

Віншую цябе з надыходзячай важнай красавіцкай датай — з першым Днём нараджэння нашай дачкі Лады! Лада — разумная, прыгожая, смелая і мэтанакіраваная дзяўчынка! Хай расце здаровай і шчаслівай! Я ёй абавязкова перадам, што ты яе таксама шчыра віншуеш і любіш, пацалую і абдыму за цябе! Лада ўжо ходзіць кругамі па пакоі, камандуе ўсімі і стварае беспарадак :) Чакаем цябе і верым, што будзем святкаваць важныя даты разам.

У нас з Ладай усё добра! Са здароўем ва ўсіх усё нармальна. Лекары сказалі мне і тату, што аднаўленне па плане.

Бацькі перадаюць прывітанне і словы падтрымкі. Чакаем цябе, ганарымся табой!

Ти — найкращий чоловік і татусь! Я дуже кохаю тебе! Поважаю, ціную, пишаюся!

Дзякуй вялікі табе за клопат пра нас з дачкой! Цалуем, абдымаем, чакаем! Беражы сябе! Разам назаўжды!

**Кахаючая і верная жонка Леся**
**Любімая дачка Лада**

***

**Аляксею Самусенку:**

Віншую з надыходзячым днём нараджэння жонкі і пляменніцы! Ты — добры дзядзька і годны чалавек :) Абавязкова перадам ад цябе віншаванні і абдыму Ладу!

Вясновага настрою табе і бадзёрасці духу! Мае бацькі перадаюць табе словы падтрымкі. Усё будзе добра :) Беражы сябе! Чакаем цябе, ганарымся, верым у цябе!

**Леся і Лада**

***

**Івану Андрушойцю:**

Віншуем вас з Сафіяй з жаніцьбай! Хай у вашай сям'і заўсёды будзе каханне, павага і паразуменне! Будзьце шчаслівы! Шмат вам радасных момантаў, дабра, матэрыяльнага дабрабыту і гармоніі!

**Кім, Леся, Лада**

***

**Дзянісу Івашыну:**

Сынок! Я ні на секунду не губляю надзею, што бязмежжа, што робіцца гэтым рэжымам, хутка скончыцца, і ўсе незаконна затрыманыя і зняволеныя выйдуць на волю! З нецярпеннем чакаю гэтага. Вельмі хочацца цябе абняць, пахадзіць, пагаварыць, як раней.

Вясна павінна ўсё змяніць! Свабода на парозе!

Трымайся, сынок!

Мой каханы Дзяніска, сумую і з нецярплівасцю чакаю твайго вызвалення! За нас не хвалюйся, усё ёсць і будзе добра. Затое я цяпер маю шмат вольнага часу, таму болей пішу, як ты і хацеў, паглядзім, што з таго атрымаецца.

Гарачыя вітанні ад нас усіх, ад нашых сябраў і прыяцеляў з Гродні, Менску ды інш., ад Ромы і ўсіх нашых, ад Жаны, ад Бодзі і ўсіх, ад Уладзі, які цяпер за мяжой, ад нашага гіда ў Львове, і шмат яшчэ ад каго. У нашых думках, словах, лістах, паштоўках, малітвах мы разам з табой!

Дасылаем табе верш Пімена Панчанкі, які найлепш адпавядае твайму характару і сённяшняму моманту:

*Мала сказаць: ненавіджу,*
*Мала сказаць: прызнаю,*
*Біцца за праўду — і выжыць,*
*Нібы салдат у баю.*

*Дрэннаму — не пакарыцца,*
*Добрае — не празяваць.*
*З дробнай хлуснёй не мірыцца,*
*З буйнай хлуснёй ваяваць!*

***

**Мікалаю Дзядку:**

Мікола, ты выдатны, светлы і незвычайна ўнутрана моцны чалавек! Нават у такі складаны перыяд ты глядзіш наперад смела і ўпэўнена. Ведай, што ні адны сцены не могуць адабраць у цябе нашу падтрымку, сяброўства і любоў. Я неверагодна ганаруся табой, моцна абдымаю і вельмі люблю! Мур ад Альберыка.

**Алеся**

P.S. У інтэрнэце самотна без тваіх пастоў;).

Дарагі Мікола! Захапляюся тваёй сілай духу, тваёй устойлівасцю, тваёй мужнасцю. Вельмі не хапае цябе тут. Мужайся!

Чакаем цябе на волі!

**Воля**

Здарова!

Спадзяюся, што тваё самаадчуванне ў норме (ментальнае і фізічнае). Чытаючы навіны аб тваіх ліхтугах, успамінаюцца твае апавяданні пра жыццё ў камуналцы ў Каўнасе. У цэлым, умовы месцамі падобныя, хоць у СІЗА і не трэба прасіць бабку інваліда ўключыць у доме ацяпленне. Так што я ўпэўнены: тваё цяперашняе становішча ўжо сапраўды не зломіць тваю волю і надзею на светлую будучыню.

**Мемны эксперт**

У гэтых страшных беларускіх рэаліях ты, Мікола, ведай, мы ўвесь час думаем пра цябе, ты нават уявіць сабе не можаш, столькі людзей шчыра перажываюць і імкнуцца перадаць вестку. Сэрца разрываецца ад усёй несправядлівасці і подласці вакол! Трымайся, хутка мы ўсе сядзем за вялікім сталом з цэлым наборам вегетарыянскіх страў (мама абяцала навучыцца іх гатаваць)! Ужо не маленькая Анфіса будзе пяшчотна мурлыкаць ля тваіх ног, а мы да раніцы будзем распавядаць гісторыі, якія, вядома, будуць і сумныя, і вясёлыя, а навін то ўжо шмат!

Нядаўна ўспаміналa, як ты хадзіў на розныя мерапрыемствы, фестывалі, фрымаркеты і пісаў нататкі пра іх, у гэтую ж газету. А яшчэ спадзяюся, ты не кідаеш сваёй ідэі вучыць англійскую і вучышся. Ведаеш, усё мяняецца — і гэтыя змены можа не такія хуткія, як нам усім хацелася б, але яны незваротныя. Учора было сонца і практычна ўсе растала. А сёння мокры снег, але я дакладна ведаю, што будзе цяплець, хутка будуць зялёныя лісце на дрэвах, птушкі ўжо спяваюць. І адчуванне таго, што вясна, — яно тут. У Іспаніі плануюць увесці чатырохдзённы працоўны тыдзень, нават не верыцца, што рабочыя раней змагаліся за скарачэнне 12 гадзіннага працоўнага дня, а ўжо ў грамадстве абмяркоўваецца і безумоўны даход, і 4-дзёнка. І ўсё роўна ў выніку справядлівасць пераможа, змены і мары нельга звярнуць назад.

**Таварышка М.**

# Беларусь рэзка апусцілася ў індэксе эканамічнай свабоды

**Беларусь апусцілася з 88-га на 95-е месца ў індэксе эканамічнай свабоды амерыканскага даследчага інстытута «Heritage Foundation».**

Беларусь аказалася на 43-м месцы сярод 45 краін Еўрапейскага рэгіёна — гэта ніжэй за сярэднесусветны паказчык. Паказчык эканамічнай свабоды Беларусі складае 61. Агульныя балы сталі меншымі на 0,7 пункта з-за зніжэння эфектыўнасці судовай сістэмы. Акрамя слабых бакоў судовай сістэмы, нізкія паказчыкі па параметрах правоў уласнасці і цэласнасці ўрада ўказваюць на неабходнасць прыняцця дадатковых крокаў для ўмацавання вяршэнства закона.

Між тым, усе суседзі Беларусі палепшылі свае пазіцыі. Расія заняла 92-ы радок рэйтынгу, Літва — 15, Латвія — 30, Польшча — 41, а Украіна — 127.

# Вінаватых прыцягнуць да адказнасці

**ЕС падтрымае Міжнародную платформу для Беларусі дзеля прыцягнення вінаватых да адказнасці, паведамляе «Белсат».**

Вярхоўны прадстаўнік ЕС па пытаннях замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі Жазэп Барэль заявіў: «Пасля фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў улады Беларусі здзейснілі непрымальныя парушэнні правоў чалавека ў дачыненні да беларускага народа. На масавую мірную мабілізацыю беларускага грамадства, якое выступае за дэмакратыю і свае асноўныя свабоды, улады адказалі жорсткімі рэпрэсіямі, незаконнымі арыштамі і затрыманнямі, сотнямі задакументаваных выпадкаў катаванняў ды іншых жорсткіх, бесчалавечных або прыніжальных годнасць відаў абыходжання і пакарання, уключаючы сексуальны і гендарны гвалт… Вінаватыя павінны быць прыцягнутыя да адказнасці». Акрамя падтрымання працы міжнароднай платформы, Рада ААН у справе правоў чалавека ўхваліла прапанаваную ЕС рэзалюцыю адносна сітуацыі ў Беларусі. Гэты дакумент дае мандат вярхоўнаму камісару ААН у справе правоў чалавека для збору інфармацыі пра парушэнні ў Беларусі.

Барэль падкрэсліў, што ў сваёй працы вярхоўны камісар ААН будзе карыстацца дакументацыяй, сабранай міжнароднай платформай.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як напалохаць улады

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Улады не далі грамадзянам адзначыць Дзень Волі так, як яны таго хацелі, — на вуліцы. Але ці значыць гэта, што «пратэст садзьмуўся»? І ці не дасягнула грамадства некаторых мэтаў проста самім фактам гэтага свята?**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Перад 25-м сакавіка ў Мінск былі сцягнутыя ці не ўсе сілы рэпрэсіўнай машыны. У горад прыгналі БТРы, якія паставілі ля ўрадавых будынкаў. Цэнтральныя вуліцы патрулявалі «аліўкі» і «масліны». Горад выглядаў так, нібы аказаўся ў акупацыі. Зразумела, масавую акцыю пратэсту ў такіх умовах не правядзеш.

Але нават гэта можна лічыць дасягненнем. Па-першае, для ўладаў крытычна важна прадэманстраваць, што сітуацыя ў краіне вярнулася ў норму, што ўсё будзе, як і раней. Гэтая мэта была праваленая. І, як ні дзіўна, галоўнай прычынай таму сталі не самі беларусы, а тая паранойя, што ахапіла лукашэнкаўскі рэжым.

Калі на вуліцах БТРы — гэта не адпавядае вобразу нармальнасці і спакою, да якога імкнецца рэжым. Але імкнецца, як заўсёды, нягегла. Узяць хаця б заяву МУС наконт Дня Волі. У першых радках ведамства паведамляе, што «анансаваныя дэструктыўнымі Telegram-каналамі маштабныя пратэсты 25 сакавіка не адбыліся». А напрыканцы кажа: «За парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах у краіне затрымана больш за 200 чалавек».

Як казаў паэт Наум Каржавін, «плюралізм у адной галаве — гэта шызафрэнія». Два меркаванні ў адной галаве, калі пратэстаў не было, але за іх затрыманыя сотні чалавек — шызафрэнія таксама.

Па-другое, дзеянням уладаў якраз добра пасуе канцэпцыі «эканамічнага супрацiву». Колькі паліва спалілі войскі, якія перакідваліся ў Мінск? Колькі каштаваў пралёт (і не адзін) верталёта з відэатэхнікай над Мінскам? Колькі «сухпайкоў» выдалі вайскоўцам? Гэта ўсё — грошы. І грошы немаленькія. А чым больш марнуе грошай улада на сваю паранойю, тым менш у яе застаецца. А новыя грошы ёй ніхто не дае.

І ўжо відавочна тое, што ва ўладным асяроддзі ідзе барацьба за рэсурсы. Сілавікі прыдумляюць новыя «жахі» для Лукашэнкі, каб атрымаць ад яго больш профітаў. Усе мы памятаем, як старшыня КДБ Іван Церцель расказваў пра безліч тратылу, якія КДБ смачна выкрыла і сканфіскавала. За гэта Церцель, напэўна, атрымаў «плюскі ў карму».

А што МУС, ці горшае? Міліцыянты таксама «выкрылі» тое, што Церцель не ўсю выбухоўку канфіскаваў, і, нібыта, перапынілі спробы тэрактаў. Канешне, тое, што паказана ў міліцэйскім роліку — балон ад вогнетушыцеля ды іншыя рэчы, — можна свабодна набыць у беларускіх крамах, і нічога асаблівa выбуховага там няма. Але хто ў гэтым разбіраецца? Галоўнае — заявіць, што «прадухілілі тэракты», згуляць на страху дыктатара, ды таксама атрымаць профіт.

Не горшая і Генпракуратура, якая завяла справу за падрыхтоўку тэрактаў на… Святлану Ціханоўскую, якая ўжо восем месяцаў знаходзіцца па-за межамі краіны. Вось толькі цікава, ці ўзгадаў нехта ў гэтай пракуратуры, якім чынам Ціханоўская трапіла за мяжу? Ці ўспомнілі яны словы Лукашэнкі, што менавіта ён даў Ціханоўскай 15 тысяч долараў, каб яна з’ехала з краіны? Карацей, ці будзе Лукашэнка сведкам па гэтай справе?

Гэта ўсё было б даволі смешна, каб улады не перагнулі палку, абвінаваціўшы ў «распальванні расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці» кіраўніцтва Саюза палякаў, і ў прыватнасці яго лідарку Анжаліку Борыс. Той жа артыкул «навесілі» і Андрэю Пачобуту.

Канешне, польская меншасць ці не ўвесь час знаходзілася «пад ударам» улады. Але цяпер гэтае супрацьстаянне набыло новы маштаб. Напрыклад, Смаргонская пракуратура запатрабавала збіраць звесткі пра асобаў, якія навучаліся польскай мове, у тым ліку непаўналетніх. А гэта ўжо мяжуе з этнічнымі чысткамі.

Борыс і Пачобут, як піша польская «Rzeczpospolita», — гэта людзі, якія асабіста ведаюць польскага прэзідэнта, кіраўніка ўрада, многіх міністраў, рэдактараў найбуйнейшых СМІ. Адразу пасля іх затрымання польскі прэзідэнт Анджэй Дуда, правёў перамовы па гэтым пытанні з кіраўніцтвам АБСЕ, ААН і Савета Еўропы. Польскі прэм’ер Матэўш Маравецкі падняў «беларускае пытанне» на саміце Еўрапейскай Рады (вышэйшы палітычны орган ЕС), — хаця сітуацыю ў Беларусі там разглядаць не планавалі. Больш за тое, ён заявіў, што прапануе Літве і Латвіі «абмежаванне перамяшчэння тавараў» праз мяжу. Калі Варшава дамовіцца з Вільняй і Рыгай, гэта будзе беспрэцэдэнтны крок і наймацнейшы з усіх, якія Захад зрабіў з пачатку масавага тэрору супраць беларусаў.

«Таваразварот Польшчы з Беларуссю — 3 мільярды долараў. Для Польшчы гэта нішто — у параўнанні з амаль 100-мільярдным таваразваротам хаця б з той жа Германіяй. Варшава перажыве. Але ці перажыве Мінск, калі гандлёвыя сувязі з краінамі ЕС цалкам заблакуюць, калі Варшава не саступіць і пойдзе на беспрэцэдэнтныя крокі? А што скажа Масква Лукашэнку, калі Мінск у адказ заблакуе мяжу ў іншы бок, і шматкіламетровыя заторы з расійскіх фур стануць на мяжы? А падобна на тое, што Польшча не саступіць», — піша тая ж «Rzeczpospolita».

Не трэба забывацца і на тое, што Польшча з’яўляецца краінай, якая шмат у чым фарміруе «ўсходнюю павестку» ўсяго Еўрапейскага саюза. Так што беларуская ўлады ў чарговы раз нарваліся, і нарваліся вельмі моцна.

Так што наперадзе ва ўлады — нічога добрага. А што тычыцца свята, якое гэтым разам улада правесці не дазволіла… Справа ў тым, што ў народа апрыёры больш рэсурс, чым ва ўлады. І людзі могуць выходзіць на вуліцы калі заўгодна і калі захочуць. Не атрымалася сёння — выйдуць заўтра. Не заўтра — дык паслязаўтра. Не ў гэтыя выходныя, дык у наступныя. У любы час і ў любы момант.

Ці хопіць ва ўлады паліва, ці, дакладней, грошай на паліва, каб штотыдзень ганяць у Мінск БТРы? Вельмі сумніўна. Тым больш, што ўзяць грошы — ужо амаль няма дзе.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікола Дзядок



**У СІЗА №1 на Валадарскага, дзе цяпер утрымліваюць палітвязня, 27 сакавіка на прагулцы нехта крыкнуў: «Жыве Беларусь!». Дзядок падтрымаў, і за гэта атрымаў 9 сутак карцара.**

Рашэнне прыняў выканаўца абавязкаў начальніка Ірчыц, паведамляе тэлеграм-канал Міколы Дзядка.

Таксама Следчы камітэт распачаў новыя крымінальныя справы ў дачыненні да Міколы Дзядка. Яны расследуюцца па артыкулах за заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы, і незаконныя дзеянні ў дачыненні да прадметаў, паразлівае дзеянне якіх заснавана на выкарыстанні гаручых рэчываў.

Падчас знаходжання ў карцары зняволеным не перадаюць пошту, але пасля выхаду яны могуць атрымаць цэлы стос лістоў і паштовак.

## Вольга Залатар



**У «публічных закліках да захопу дзяржаўнай улады» абвінавачваюць Вольгу Заратар, у якой пяцёра дзяцей.**

38-гадовай шматдзетнай маці са Ждановічаў Вользе Залатар выставілі абвінавачанне, паводле якога ёй пагражае да трох гадоў турмы.

Жыхарку Ждановічаў Вольгу Залатар арыштавалі 18 сакавіка. Сілавікі спынілі яе аўтамабіль, дзе, акрамя Вольгі, знаходзілася яе непаўналетняя дачка. Пасля гэтага дадому да Вольгі прыехала група сілавікоў з ГУБАЗіКа. Яны правялі ператрус і забралі Вольгу з сабой. Цяпер яна знаходзіцца ў СІЗА на вуліцы Валадарскага.

У той жа дзень увечары затрымалі мужа Вольгі Сяргея. Яго асудзілі на 10 дзён адміністрацыйнага арышту, ён вызваліўся 28 сакавіка. 26 сакавіка Вользе афіцыйна прад’явілі абвінавачанне па артыкуле 361, часткі 1: «Публічныя заклікі да захопу дзяржаўнай улады або гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь, або здрады дзяржаве, або ажыццяўлення акта тэрарызму ці дыверсіі, або здзяйснення іншых дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, або распаўсюд матэрыялаў, якія змяшчаюць такія заклікі». Яна прадугледжвае пакаранне ў выглядзе арышту альбо пазбаўлення волі тэрмінам да трох гадоў.

Вольга Залатар да 9 жніўня была назіральніцай на выбарчым участку. Займала актыўную пазіцыю ад самага пачатку пратэстаў. Яе тройчы затрымлівалі, была валанцёркай ля Акрэсціна. Вольга скончыла БДУ (магістр сацыялогіі). Яна беларускамоўная ў жыцці. У іх з мужам пяцёра дзяцей: чатыры дачкі і сын. Старэйшай дачцэ 17 гадоў, малодшаму сыну — 4.

## Алесь Пушкін




**Вядомы беларускі мастак атрымаў крымінальную справу за партрэт і быў звольнены з працы.**

Супраць Алеся Пушкіна пракуратурай Гродна заведзеная крымінальная справа за «рэабілітацыю і апраўданне нацызму». Ведаючы пра гэта, мастак вярнуўся з Кіева. Адразу па вяртанні Пушкіна — а другой гадзіне ночы — у вёсцы Бобр, дзе жыве мастак, і ў яго майстэрні быў ператрус.

Справа датычыць карціны, якая была на выставе ў Гродне. На выставе дэманстравалі партрэт Яўгена Жыхара з аўтаматам на плячы аўтарства Пушкіна. Як сцвярджае пракуратура, Жыхар у 1946 годзе «ўзначаліў атрад з былых паліцаяў і іншых здраднікаў, якія цягам 9 гадоў у Пастаўскім раёне забівалі міліцыянтаў, партыйных і дзяржаўных службовых асоб, падпальвалі адміністрацыйныя будынкі і рабілі дыверсіі на чыгунцы».

Пушкіна таксама звольнілі з ААТ «Белрэстаўрацыя», дзе ён працаваў мастаком-рэстаўратарам. Начальніца аддзела кадраў прапанавала яму напісаць заяву па ўласным жаданні. Алесь адмовіўся, і атрымаў адказ, што ўсё адно будзе звольнены, а прычыну — знойдуць.

30 сакавіка Пушкіна затрымалі проста на працоўным месцы — на аб’екце ў Жылічах. Мастак адмовіўся ісці з міліцыянтамі, і яго проста вынеслі з працы.

**а | Азбука паліталогіі**

# У чаканні дасканалага заканадаўства



Сяргей НІКАЛЮК




**Калі хочаце ўбачыць за дрэвамі лес, варта выйсці з лесу. Складана ацаніць сістэму ў цэлым, калі знаходзіцца ўнутры сістэмы. Позірк увесь час чапляецца за канкрэтыку. Праблема, аднак, палягае ў тым, што любая складаная сістэма ўтрымлівае мільёны канкрэтных фактаў. Але сістэма — гэта не іх механічная сума. Яна ўзнікае як вынік бесперапыннага ўзаемадзеяння фактаў паміж сабой.**

Паспрабую патлумачыць гэта з дапамогай культуролага Андрэя Пеліпенкі: «Бактэрыі, якія жывуць у страўніку нейкай істоты, калі ўявіць іх як разумных істот, могуць мець сваю "карціну свету", свой гарызонт разумення падзей, якія адбываюцца з імі, працэсаў. Але гэты гарызонт фатальна абмежаваны іх функцыямі, і вобраз арганізма як цэлага ў іх уяўленні заўсёды паўстае скажоным. Пры гэтым іх уласная рэфлексія з нагоды "сэнсу жыцця" і да таго падобнага будзе даволі далёкай ад сапраўднага прызначэння функцый, якія яны выконваюць...»

За патокамі фактаў, што былі згенераваны падзеямі лета 2020 года, не так проста ўгледзець працэсы. Акрамя дыстанцыі, для гэтага патрэбны і час. Таму любыя высновы, зробленыя сёння, акажуцца ў лепшым выпадку павярхоўнымі.

Адзінае, на што можна абаперціся, — гэта мінулы вопыт. Беларускай мадэлі пайшоў 27-ы год. Наіўна было б чакаць, што яе рэакцыя на масавыя пратэсты сфарміравалася пад уплывам страхаў канкрэтнай асобы (асоб) у рэжыме «тут і цяпер». Памыляецца і той, хто лічыць, што стаў сведкам нараджэння ў грамадстве і дзяржаве чагосьці прынцыпова новага.

## Тых, хто пайшоў у адрыў, не дагнаць

У Пасланні–2013 слова «мадэрнізацыя» згадвалася 49 разоў, у Пасланні–2020 — толькі 2 разы! Прыватны выпадак або тэндэнцыя? А калі тэндэнцыя, то якая яе прырода?

Прыгадаю словы эканаміста Якава Міркіна: «Ніводная мадэрнізацыя ў Расіі не праходзіла без "кантракту" з Захадам. Ад XVII стагоддзя да дыктатуры пралетарыяту. Сталінская мадэрнізацыя была запушчана не толькі рэпрэсіямі, але і масавымі пастаўкамі з ЗША і Германіі — заводаў, тэхналогій, абсталявання. Яе ключавая фігура — Альберт Кан, выбітны амерыканскі прамысловы архітэктар, які паставіў на паток больш за пяцьсот заводаў у СССР. Кантракт Кана з СССР склаў 2 мільярды долараў (каля $30 мільярдаў па цяперашніх цэнах)».

Да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэрыторыя цяперашняй Беларусі была часткай заходняй цывілізацыі. На жаль, змена цывілізацыйнай ідэнтычнасці — не рэдкасць у гісторыі. Тое, што было, — сплыло, і за савецкі перыяд цывілізацыйны вектар у Беларусі канчаткова разгарнуўся на 180.

Можна доўга спрачацца пра прычыны распаду СССР, але тое, што ён не даў рады пераходу ад індустрыяльнага да постындустрыяльнага этапу развіцця, сумневаў не выклікае.

Гісторыя ведае мноства прыкладаў, калі індустрыялізацыя з яе масавай вытворчасцю на гіганцкіх фабрыках праводзілася пад кіраўніцтвам бюракратыі. Але постындустрыяльная эканоміка без узмацнення асабістай аўтаноміі немагчымая. Тут колькі ні ўмацоўвай вертыкаль улады, колькі ні давай абавязковых да выканання ЦУ, тых, якія пайшлі ў адрыў, не дагнаць.

У 80-я гады я неаднаразова назіраў, як калегі ў СКТБ «Інтэграл» капіявалі заходнія мікрасхемы (распрацоўвалі аналагі). Паўтарыць іх подзвіг немагчыма. Мы адсталі назаўжды. Субмікронныя тэхналогіі не пра нас. Час запазычанняў скончыўся.

Сусветную статыстыку перапісвае В'етнам. Зразумела, з дапамогай найбуйнейшых IT-карпарацый. З В'етнамам яны супрацоўнічаюць, з Расіяй і Беларуссю — не. Але будаўнікоў Саюзнай дзяржавы гэта не засмучае. Нібы ліса з байкі Крылова, яны пераконваюць сябе ў тым, што ў такім супрацоўніцтве не маюць патрэбы.

## Дэвальвацыя асноўнага стымулу

«На індустрыяльным этапе мадэрнізацыі адбываецца вызваленне ўлады ад рэлігіі, у той час як на постындустрыяльным — вызваленне чалавека ад усёдыснай улады», — сцвярджае кіраўнік праекта Сусветнага даследавання каштоўнасцяў Рональд Інглхарт.

Не ўпэўнены, што па калідорах Палаца Незалежнасці блукаюць тыя, хто знаёмы з працамі амерыканскага сацыёлага. Але для ўсведамлення пагрозаў, якія нясе архітэктарам беларускай мадэлі постындустрыяльная мадэрнізацыя, гэтага і не патрабуецца.

У жыцці часцей даводзіцца выбіраць не паміж добрымі і выдатнымі варыянтамі, а паміж дрэннымі і вельмі дрэннымі. Таму, калі эканамічнае развіццё вядзе да фарміравання аўтаномных ад улады грамадзян, то на эканамічным развіцці ставіцца крыж. Сам жа рэжым, арыентаваны на самазахаванне, быць суб'ектам развіцця не здольны. Постсавецкая гісторыя намаганняў па захаванні «Мотавелазавода» гэтую ісціну пацвярджае (гл. папярэднюю «Азбуку паліталогіі»).

Мадэрнізацыя, якая даганяе, — гэта адказ расійскай мадэлі на знешнія пагрозы. На працягу амаль усёй гісторыі яны былі рэальнымі і выступалі ў якасці асноўнага стымулу для развіцця (ад лацінскага stimulus — шост, якім паганяюць аслоў).

Аднак час вырашэння спрэчных пытанняў з дапамогай ваеннай сілы скончыўся, што не адмяніла эканамічных, інфармацыйных і іншых гібрыдных войнаў. Не варта забываць і пра наяўнасць у галоўных праціўнікаў ядзернай зброі, здольнай ператварыць любую перамогу ў піраву.

Кардынальныя змены ў міждзяржаўных адносінах не дэвальвавалі патрэбы ў «вобразе ворага». Усё адбылося з дакладнасцю да наадварот. Дастаткова прыгадаць, як дзяржаўныя прапагандысты, што сутыкнуліся з масавымі пратэстамі ўнутры краіны, кінуліся палохаць беларусаў абрэвіятурай NATO. Абмяжуюся цытатай самага аўтарытэтнага: «Пад прыкрыццём "прынцыпу ратацыі" фактычна на пастаяннай аснове ў рэгіёне, у тым ліку на сумежнай з намі тэрыторыі, нарошчваецца групоўка войскаў NATO. У выніку ўзровень замежнай ваеннай прысутнасці ў рэгіёне сёння наогул не кантралюецца. Пастаянныя трэніроўкі войскаў ЗША і NATO скарачаюць тэрмін іх гатоўнасці да баявога прымянення...»

## У адказ на запыт простых грамадзян

Пошук ворагаў на працягу ўсёй гісторыі беларускай мадэлі разглядаецца ў якасці галоўнай дзяржаўнай працы. Абуджэнне грамадства ад палітычнай спячкі павысіла яе актуальнасць на парадак, а заадно да завоблачных вышыняў вырас і статус тых, хто на пошуку ворагаў спецыялізуецца.

Эфектыўнасць у XXI стагоддзі дасягаецца за кошт падзелу працы, таму збіццём «пратэстуноў» справа не абмяжоўваецца. Да праблемы вырашана падысці комплексна, пра што і нагадаў адзіны палітык 18 сакавіка на «Нарадзе аб выкананні даручэнняў па ўдасканаленні заканадаўчых актаў у сферы забяспячэння нацбяспекі і аховы грамадскага парадку».

Падставай для ўдасканалення заканадаўства паслужыў «запыт простых грамадзян на забеспячэнне грамадскай бяспекі, захаванне парадку і міру ў краіне». Куды ж без яго?! Не па ўласнай жа ініцыятыве занепакоіліся на вяршыні «вертыкалі» аховай канстытуцыйнага ладу?

Сур'ёзна занепакоіліся. У артыкуле 25-м Асноўнага закона чытаем: «Ніхто не павінен падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму да яго годнасці абыходжанню ці пакаранню, а таксама без яго згоды падвяргацца медыцынскім або іншым доследам».

У якасці каментара прыводжу фрагмент з агляду ПЦ «Вясна» за 2020 год. «На дадзены момант ПЦ "Вясна" задакументавана больш за 1000 сведчанняў ахвяр катаванняў. Іх аналіз дазваляе сцвярджаць, што катаванні насілі масавы, сістэмны характар і з'яўляліся арганізаванай, палітычна матываванай карнай акцыяй уладаў па застрашванні беларускага грамадства».

***

І каментар да каментара: «Мабілізацыя асобасных рэсурсаў пры адначасовым узбагачэнні іх якасці — праблема любой краіны, вымушанай ажыццяўляць тэхналагічныя мадэрнізацыі ў адказ на знешнія выклікі» (Аляксандр Ахіезер, гісторык).

На жаль, тэхналагічная мадэрнізацыя для беларускай мадэлі больш не актуальная. Такім чынам, спасылкі на 25-ы артыкул Канстытуцыі выглядаюць сёння анахранізмам. Мяркую, гэты факт не пройдзе міма чальцоў Канстытуцыйнай камісіі.

# Беларуская эканоміка ў пытаннях і адказах

**Разбіраемся, што адбываецца з цэнамі, чаму банкі павысілі стаўкі па крэдытах, ці ёсць прыкметы хуткай дэвальвацыі і не толькі.**


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## ВУП у студзені-лютым вырас. Значыць, у эканоміцы ўсё наладжваецца?

ВУП за студзень-люты склаў 23,3 мільярда рублёў, у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года ён вырас на 0,8%. Але ў лютым тэмп прыросту запаволіўся ў параўнанні са студзенем, калі эканоміка паказала прырост на 1,3%. Праўда, тут трэба не забываць, што ў першыя два месяцы 2020 года эканоміка паказала падзенне на 0,6% да таго ж перыяду 2019-га, што было выклікана складанасцямі нафтахімічнай галіны на фоне абмежавання нафтавых паставак.

Станоўчы ўклад у прырост ВУП у першыя два месяцы гэтага года ўнеслі апрацоўчая прамысловасць, забеспячэнне электраэнергіяй, газам, гарачай вадой, інфармацыя і сувязь, сціплы ўклад быў у аптовага і рознічнага гандлю. У той жа час будаўніцтва і сельская гаспадарка, якія летась доўга заставаліся ў ліку драйвераў эканомікі, сышлі ў мінус.

Сітуацыю з ВУП старшы навуковы супрацоўнік BEROC Дзмітрый Крук характарызуе як падвешаную: фактычна эканоміка знаходзіцца ў замарожаным стане, і невядома, куды рушыць далей.

— Казаць пра тое, што намецілася выразная тэндэнцыя аднаўлення або паскарэння росту, не даводзіцца. Ёсць сігналы, якія ўказваюць на тое, што пасля ВУП можа пагаршацца, мы рызыкуем вярнуцца да спаду. Захаваць тэндэнцыю да аднаўлення ў 2021 годзе можа, па сутнасці, толькі экспарт. Унутраныя кампаненты, у тым ліку спажывецкі і інвестыцыйны попыт, дэманструюць негатыўныя тэндэнцыі, — тлумачыць эксперт.

Сумнявацца ў тым, што беларуская эканоміка ўзяла курс на аднаўленне, вымушаюць і складанае фінансавае становішча прадпрыемстваў, і няпростая сітуацыя ў банкаўскім сектары, і высокая ступень негатыўных чаканняў бізнесу, і высокія дэвальвацыйныя ды інфляцыйныя чаканні кампаній і насельніцтва.

## Пішуць, што ў банкаў цяжкасці з ліквіднасцю. Як гэта адбіваецца на ўкладах і крэдытах?

Для таго, каб банкі маглі своечасова выканаць свае грашовыя абавязкі, яны павінны мець пэўны ўзровень ліквіднасці. Калі банкам не хапае ліквіднасці, яны займаюць яе на міжбанкаўскім рынку або ў Нацбанка.

— Галоўны трэнд за апошнія паўтара года — адток дэпазітаў насельніцтва з банкаў. З пачатку мінулага года валютных і рублёвых укладаў з банкаў сышло амаль 2 мільярды долараў у эквіваленце. Пераважная частка гэтай сумы — гэта тэрміновыя валютныя дэпазіты. Гэта нанесла сур'ёзны ўдар па ліквіднасці банкаў, — каментуе Дзмітрый Крук.

Перад банкамі паўстала пытанне, каб скарэктаваць крэдытны партфель. У нейкі момант многія крэдыты сталі недаступныя. Але эканамічныя ўлады стымулявалі і змушалі банкі захоўваць крэдытаванне рэальнага сектара эканомікі. Каб выраўняць сітуацыю з ліквіднасцю, банкі пачалі прыцягваць новыя ўклады пад больш прывабныя працэнты. Але паколькі грошы ва ўмовах нявызначанасці вярнуліся ў адносна невялікіх аб'ёмах, банкі пайшлі за ліквіднымі рэсурсамі да Нацбанку.

Цяпер прапановы крэдытаў для бізнесу і насельніцтва паступова павялічваюцца, але працэнты па іх значна вышэйшыя, чым былі раней.

## Але ж Нацбанк дапамагае банкам з ліквіднасцю?

У сярэдзіне мінулага года Нацбанк прыпыніў пастаянна даступныя аперацыі па рэгуляванні ліквіднасці. Падтрымка ліквіднасці банкаў з таго часу праходзіць з дапамогай правядзення крэдытных аўкцыёнаў. Першапачаткова гэта было зроблена для таго, каб падтрымаць курс беларускага рубля на фоне адтоку дэпазітаў і попыту на валюту, які вырас. Лішняя ліквіднасць тады з вялікай доляй верагоднасці была б пераведзеная ў замежную валюту. Часовае рашэнне аб падтрыманні ліквіднасці з дапамогай крэдытных аўкцыёнаў дзейнічае да гэтага часу. Пры гэтым не заўсёды рэгулятар задавальняе запыты банкаў.

Напрыклад, на апошнім крэдытным аўкцыёне банкі запыталі ў рэгулятара ліквідных рэсурсаў на агульную суму 3,7 мільярда рублёў, а Нацбанк задаволіў запыт толькі на 250 мільёнаў рублёў. Калі раней рэгулятар баяўся, што сродкі будуць сыходзіць у валюту, то цяпер абмежаванне ліквіднасці служыць своеасаблівым спосабам стрымлівання ўзроўню інфляцыі. Бо калі б Нацбанк працягнуў уліванні ў банкаўскі сектар у ранейшых аб'ёмах, гэта прывяло б да яе паскарэння, адзначае эксперт BEROC.

## Стаўкі па крэдытах выраслі ў некаторых выпадках вышэй за 25%. Ці бяспечна браць такія крэдыты?

На стаўкі па крэдытах уплываюць некалькі фактараў. Першы з іх — стаўка рэфінансавання. Але паколькі Нацбанк з 1 ліпеня 2020 года захоўвае яе на ўзроўні 7,75% гадавых, на рост цаны крэдытаў яна не паўплывала. Другі — павелічэнне адсоткаў па рублёвых укладах. Пасля леташняга істотнага адтоку ўкладаў банкі заклапаціліся іх большай прывабнасцю і павысілі стаўкі па дэпазітах. Сярэдняя стаўка па новых рублёвых дэпазітах тэрмінам да года ў студзені вырасла да 18,31%, а ў лютым крыху апусцілася — да 18,22%. Для параўнання: у лютым мінулага года яна складала 8,44%. На доўгатэрміновыя ўклады сярэдняя стаўка вырасла да 13,31%. А крэдыты ў банках заўсёды даражэйшыя, чым уклады, адсюль і больш высокія працэнты. Трэці фактар — закладзеныя ў паслугу рызыкі.

Ці браць крэдыты на такіх умовах, кожны вырашае сам, у залежнасці ад мэтаў, сваіх магчымасцяў і ўяўленняў пра тое, як будзе развівацца эканоміка. Хтосьці гатовы браць крэдыт пад такія стаўкі, бо мае патрэбу ў ім у дадзены момант для куплі чагосьці вельмі важнага.

**Галоўны трэнд за апошнія паўтара года — адток дэпазітаў насельніцтва з банкаў. З пачатку мінулага года валютных і рублёвых укладаў з банкаў сышло амаль 2 мільярды долараў у эквіваленце**

— Хтосьці лічыць, што ў гэтую стаўку закладзеныя інфляцыйныя чаканні, але яго асабістыя інфляцыйныя і дэвальвацыйныя чаканні могуць быць яшчэ вышэйшыя, і чалавек лічыць, што нават з такой стаўкай ён можа выйграць. Але хатняя гаспадарка, блізкая да медыяннай, якая па ўсіх характарыстыках лічыцца не асабліва схільнай да рызыкі, калі будзе зыходзіць з кансерватыўных прагнозаў і дапускаць інфляцыю ў адназначным дыяпазоне, для яе такая працэнтная нагрузка — занадта высокая, — адзначае Зміцер Крук.

## Улады замарозілі цэны, а эканамісты кажуць, што тыя ўсё роўна будуць расці

— Месяц таму я б сказаў так: калі далей штучна не падштурхоўваць прырост ВУП, калі не будуць прымяняцца нейкія штучныя манетарныя альбо фіскальныя механізмы для стабілізацыі фінансавай пазіцыі дзяржпрадпрыемстваў, то з траўня-чэрвеня можна чакаць запаволення тэмпаў інфляцыі. Цяпер важна дапоўніць [яшчэ адна ўмова] — ці будуць улады супрацьстаяць інфляцыі, — кажа Дзмітрый Крук.

У лютым гадавая інфляцыя дасягнула 8,7%. З аднаго боку, у спробе стрымліваць інфляцыю ў канцы лютага ўрад пастанавіў, што цэны на шэраг сацыяльна значных тавараў першай неабходнасці і лекаў не павінны расці больш, чым на 0,2% у месяц. Хоць такім абмежаваннем улады толькі падшпілілі інфляцыйныя і дэвальвацыйныя чаканні, лічаць эксперты.

З іншага боку, адмова Нацбанка ад павышэння стаўкі рэфінансавання, якая служыць інструментам уплыву на інфляцыю, пасылае грамадству сігнал аб тым, што на фоне клопату пра фінансавы стан дзяржпрадпрыемстваў і пра тэмпы прыросту ВУП клопат наконт інфляцыі можа сысці на другі план, дапаўняе эканаміст BEROC.

— Па сутнасці, гісторыя з непадвышэннем стаўкі [рэфінансавання] паказвае грамадскасці, што стабільнасць цэнаў не ўваходзіць у пералік безумоўных прыярытэтаў. Гэта само па сабе дае дадатковы імпульс для развіцця інфляцыйных чаканняў. У гэтай сітуацыі ключавым для таго, што будзе адбывацца з інфляцыяй, з'яўляецца пазіцыя ўладаў. Пакуль ёсць безумоўнае факусаванне на ВУП і дзяржпрадпрыемствах. А як яны будуць сябе паводзіць, калі інфляцыя раптам пяройдзе ў двухзначны дыяпазон (цяпер гэта бачыцца верагодным варыянтам) — не ведаю, — каментуе Дзмітрый Крук.

## Значыць, ёсць перадумовы і для дэвальвацыі?

З пункту гледжання знешняй гандлёвай устойлівасці, прамых перадумоваў для абясцэньвання рубля няма. Але на валютны рынак будзе аказваць ціск сітуацыя ўнутры беларускай эканомікі.

— Валюта ў нас на ўнутраным рынку адыгрывае гіпертрафаваную ролю. Паводзіны эканамічных агентаў на ўнутраным рынку, у тым ліку ў дачыненні да сваіх валютных фінансавых кантрактаў, моцна залежаць ад іншых характарыстык эканомікі, ад таго, што яны бачаць і якія пагрозы адчуваюць, — тлумачыць эканаміст і прыводзіць такі прыклад: — Баючыся за будучы эканамічны стан, многія хатнія гаспадаркі больш за год аддаюць перавагу забіраць дэпазіты ў замежнай валюце, гэта ў тым ліку праблема для валютнага рынку. З гэтым былі звязаныя сур'ёзныя прасяданні рэзерваў, якія мы бачылі ў сакавіку і жніўні мінулага года.

Падобныя рэакцыі насельніцтва або кампаній у адказ на бачныя або рэальныя пагрозы іх зберажэнням могуць паўплываць на пазіцыю рубля ў адносінах да замежных валют.

## А дэфолт будзе?

Старшы эканаміст Tellimer Патрык Каран назваў Беларусь у спісе тых краін, чый дзярждоўг становіцца занадта цяжкім і якім складана выконваць абавязанні. У гэтую групу ўвайшлі таксама Ямайка, Туніс, Эквадор, Шры-Ланка, Эфіопія, Лаос, Бахрэйн і Аман. Гэтыя краіны ў блізкай перспектыве рызыкуюць сутыкнуцца з праблемай неплацежаздольнасці, перакананы эксперт. Аднак беларускія эканамісты кажуць, што як мінімум сёлета Беларусь здольная выканаць свае даўгавыя абавязацельствы перад знешнімі крэдыторамі.

Асноўны памер дзярждоўгу намінаваны ў замежнай валюце — значыць, і разлічвацца па ім трэба будзе не ў рублях. Апошнімі гадамі частку дзярждоўгу Беларусь рэфінансавала — гэта значыць, брала новыя крэдыты, каб заплаціць па старых. Сёлета плануецца прыцягнуць блізу 1 мільярда долараў, 500 мільёнаў з якіх — гэта другі транш расійскага дзяржкрэдыту.

Нават у выпадку адсутнасці іншых крыніц фінансавання выплат па дзярждоўгу, у гэтым годзе Беларусь разлічыцца са сваімі абавязацельствамі, у крайнім выпадку давядзецца задзейнічаць ЗВР.

Але чым больш грошай будзе выдаткоўвацца з ЗВР, чым дэфіцытнейшым будзе бюджэт, чым хутчэй будзе павялічвацца дзярждоўг, тым ніжэй будуць падаць крэдытныя рэйтынгі — такім чынам, усё ўжо будзе прасторай для новых запазычанняў, а новыя крэдыты будуць усё больш дарагімі праз занадта высокія рызыкі, тлумачыла аналітык праекта «Кошт урада» Жанна Кулакова.

**Паводле Надзея Калініна / TUT.BY**

**Пераклад НЧ**

Дзіяна СЕРАДЗЮК

# «Я веру, што ў гэтым годзе ён будзе дома»

**Палітвязень Раман Кананові́ч асуджаны на чатыры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за тое, што 10 жніўня ў раёне метро «Пушкінская» паспрабаваў адцягнуць агароджу, якая замінала прайсці. Яго дзяўчына Валерыя распавяла «Новаму Часу», чаму пайшла на шматлікія курсы, як вучыць каханага французскай мове, рыхтуецца да вяселля і якім уяўляе дзень вызвалення.**

Раман і Валерыя разам амаль два гады. Як распавядае дзяўчына, гэта было каханне ледзь не з першага погляду.

— Гэта было адно з найлепшых спатканняў у маім жыцці, — узгадвае Валерыя першую сустрэчу з Раманам. — Ён адвёў мяне на дамбу, там быў вельмі прыгожы краявід, зладзіў пікнік. Мы сядзелі ўсю ноч. Яшчэ адзін момант, які падкупіў: мы з ім жылі ў розных частках горада. Ён выклікаў таксоўку, і спачатку адвёз дадому мяне, а потым паехаў да сябе. Рома вельмі добры, камунікабельны, заўжды ўсім дапамагае.

## Абвінавачанне пабудавана на фатаграфіі

Раман Кананові́ч працуе праграмістам, вельмі захоплены сваёй прафесіяй і палітыкай ніколі не цікавіўся. Але хацеў развіваць сваю краіну і разумеў, што вынікі выбараў 9 жніўня — хлусня. Увечары 10 жніўня ён быў у сваякоў у раёне станцыі метро «Пушкінская» і выйшаў на вуліцу, каб ісці дамоў. Гэтага хапіла, каб трапіць пад крымінальны пераслед. Валерыя распавядае, што ўсё абвінавачанне будавалася вакол адной фатаграфіі, зробленай у той вечар карэспандэнтам аднаго з замежных СМІ.

Паводле абвінавачання, Раман Кананові́ч «9 жніўня і ў наступныя дні прыняў удзел у загадзя спланаваных масавых беспарадках у Мінску, якія выявіліся ў непасрэдным здзяйсненні пагромаў, узброенага супраціву прадстаўнікам улады, супрацоўнікам АУС у форменным абмундзіраванні». У выстаўленым палітвязню абвінавачанні сказана, што ён «10 жніўня, будучы дасведчаным з розных крыніц аб планаваных супрацьпраўных дзеяннях, прыбыў на ўчастак мясцовасці па адрасе на Прытыцкага, 32-28, для выказвання незаконнымі спосабамі сваіх грамадска-палітычных поглядаў і пратэстаў праз дэструктыўную дзейнасць, накіраваную, у тым ліку, на абвастрэнне напружанасці ў грамадстве, прыняў актыўны ўдзел у сумесных дзеяннях натоўпу, якія груба парушаюць грамадскі парадак». Таксама абвінавачанне сцвярджала, што Раман нанёс шкоду філіялу «Мінскія цеплавыя сеці» РУП «Мінскэнэрга» шляхам «раскамплектавання металічнай канструкцыі ў выглядзе 12 жалезных штыроў», «выняў з іншымі неўстаноўленымі асобамі не менш за чатыры металічныя пруты з агароджы» і перамясціў іх да барыкадаў з мэтай «палягчэння сабе і іншым удзельнікам масавых беспарадкаў, стварэння перашкоды для перамяшчэння супрацоўнікаў і транспарту АУС». Адметна, што прадпрыемства выставіла кампенсацыю шкоды ў памеры... 0 рублёў 00 капеек.

Раман віну не прызнаў і адмовіўся ад дачы паказанняў.

## Не думаў, што яго затрымаюць

Хлопца затрымалі 16 кастрычніка. Валерыя распавядае, як гэта адбывалася:

— Спачатку прыйшлі па месцы прапіскі да мамы, але яго там не аказалася, бо ён жыў асобна. Мама яму пра гэта сказала, мы ведалі, што едуць людзі. У нас яшчэ было такое стаўленне да праваахоўнікаў — думалі, можа, агледзяць кватэру. Рома ведаў, што ён ні ў чым не вінаваты. Але ніхто не думаў, што яго будуць затрымліваць, ён сказаў мне, каб я ехала на працу, а ён застанецца, сустрэне іх і пагаворыць. Я паехала, па дарозе мы перапісваліся. Каля 9 раніцы ён напісаў: «Я цябе моцна кахаю» і выдаліў дыялог.

Валерыя гаворыць, штоператрусу ў кватэры не было, бо, калі яна ўвечары туды прыехала, нічога не змянілася.

З РУУС, куды адразу адвезлі Рамана, ён змог патэлефанаваць маці. Так, дзякуючы пошукам каханага, Валерыя з ёй і пазнаёмілася. Пасля хлопца адвезлі на Акрэсціна, тры дні ён правёў у ІЧУ, адтуль яго перавялі ў СІЗА на Валадарскага, дзе Раман утрымліваецца і цяпер.

## «Падрыхтавацца да такога немагчыма»

За ўвесь гэты час Валеры ўдалося ўбачыць Рому толькі на судзе. Яна зазначае, што малады чалавек вельмі схуднеў. 10 лютага суддзя Ленінскага раёна Таццяна Шоцік прызнала яго вінаватым па ч. 2 артыкула 293 Крымінальнага кодэкса (удзел у масавых беспарадках).

— Каб даказаць віну па яго артыкуле, павінны былі сысціся некалькі фактараў: удзел у масавых беспарадках, наяўнасць гвалту, непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі, наяўнасць зброі, нанясенне шкоды маёмасці. Ну, дапусцім, удзел даказаны — ёсць фатаграфія, і тут ужо ніхто разбірацца не будзе. Зброі не было, гвалту не было, не прывялі нават якога-небудзь пацярпелага ў балаклаве. Не было пашкоджання маёмасці. Па-добраму, атрымліваецца адміністрацыйны артыкул: адседзеў 15 сутак — і да пабачэння. Тое, што ўсё гэта не даказана — гэта не мае словы, гэта агучваў пракурор на пасяджэнні. І запытаў чатыры гады ўзмоцненага рэжыму. Гэта такі сюр.

Калі Валерыя распавядае, які шок перажыла падчас вынясення прысуду, у яе дрыжыць голас. Але яна бярэ сябе ў рукі і ўжо спакайней працягвае: насамрэч ілюзій адносна выраку асаблівых не было, адвакат раіў настройвацца на тэрмін.



— Мы чыталі навіны і разумелі, што такі вынік магчымы, — гаворыць дзяўчына. — Усім па гэтым артыкуле даюць падобныя тэрміны, бо ёсць пэўная ўстаноўка. Але падрыхтавацца да такога немагчыма.

## Вучыць французскую мову праз лісты

Валерыя і Раман пішуць адно аднаму штодня. Дзякуючы гэтаму ўдаецца прабіваць «паштовую блакаду». З ліставаннем здараюцца перабоі: напрыклад, лісты не даходзілі з канца снежня і да пачатку студзеня і з канца лютага да пачатку сакавіка. Але агулам перапіска больш-менш стабільная.

— У мяне, напэўна, самыя шалёныя лісты, бо я пішу яму пра ўсё. За дзень з табой не асабліва шмат чаго адбываецца, але ў мяне ёсць канал «Добрыя навіны», я адкрываю яго і пачынаю распавядаць, што, умоўна кажучы, Маск плануе адкрыць гатэль на Месяцы ці ў Мінскім заапарку казляня пасябравала з бегемоцікам. Пішу словы падтрымкі. Ён мне піша, што мае лісты яго моцна падтрымліваюць. А яшчэ я пырскаю лісты парфумай, каб у яго заўсёды быў мой пах.

У лістах маладзёны стараюцца не закранаць нічога таго, што магло б не прайсці цэнзуру. Нядаўна Валеры ўдалося паразмаўляць з мужчынам, які сядзеў з Раманам і сышоў на «хімію», і ад яго яна змагла крыху даведацца пра стан хлопца.

— У яго цяпер «сінусоіда»: то здаецца, што вось-вось усё атрымаецца, то роспач. Але такое, мне здаецца, ва ўсіх. Агулам ён трымаецца, ён вялікі малайчына, і я ўпэўнена, што ён не зламаецца.

У СІЗА Раман шмат чытае, яшчэ ўвосень родным удалося перадаць яму кнігі па праграмаванні і англійскай мове. Пасля суда Валерыя пачала вучыць яго французскай мове. Паколькі падручнікі ў перадачы не прынялі, дзяўчына спрабуе займацца з каханым французскай праз лісты, але так, каб было зразумела і цэнзару — бо лісты на замежных мовах не прапускаюць.

У камеры Рамана ёсць тэлевізар, таксама да яго даходзіць «Новы Час», і ён разумее, што адбываецца. Яму піша шмат людзей, атрымаў нават ліст з Бразіліі. Валерыя зазначае, што хлопец вельмі добра аналізуе інфармацыю і робіць трапныя высновы.

## «Я стала мацнейшай і смялейшай»

— Да ўсёй гэтай сітуацыі мы, напэўна, адзін аднаго недаацэньвалі, — усміхаецца дзяўчына. — Цяпер я разумею, што побач са мной не хлопец, а сапраўды мужчына.

Каб прасцей было перажываць час расстання з каханым, Валерыя, хімік па адукацыі, апроч працы стараецца нагрузіць сябе дадатковымі заняткамі: тры разы на тыдзень яна вывучае англійскую мову, яшчэ два дні вучыцца ў аўташколе. Дапамагаюць родныя і сябры — усе вельмі з'ядналіся, арганізуюць перадачы для Рамана, падтрымліваюць маральна.

— Зона камфорту для мяне цяпер — гэта замкнуцца ў сваім маленькім свеце і нікога да сябе не падпускаць, шкадаваць сябе. Але і я сама, і сябры не дазваляюць мне гэтага рабіць.

У бліжэйшых планах Рамана і Валерыі — распісацца. Яны праз маму на спатканні дамовіліся распісацца, а потым на 14 лютага Раман падарыў Валерыі пярсцёнак. Хоць, смяецца дзяўчына, прапановы хлопец ёй не рабіў і яна ўсё ж чакае гэтага прыгожага моманту, але так з'явіцца магчымасць бачыцца на спатканнях. Праўда, пакуль замест звычайнага для маладых прыемнага хвалявання даводзіцца праходзіць «перадвяселны квэст» паміж аддзелам ЗАГС, СІЗА і судом, каб сабраць неабходныя дакументы.

— Мне здаецца, што я ў кастрычніку і я цяпер — гэта два розныя чалавекі, — прызнаецца суразмоўца. — Я стала мацнейшай і смялейшай. Я параўноўвала гэта з тым, што, калі мы з Ромам хадзілі ў залу, трэнер дадаваў вагу, і ты ляжыш, на цябе ўсё ціснe, і думаеш, што не можаш зрабіць гэтае практыкаванне. А потым аказваецца, што можаш. Але тут пытанне не ў тым, ці ты можаш, а ў тым, ці цябе гэта прыціснe. Я не гатовая да таго, каб мяне прыціснула.

Трыванне гэтага цяжару дае сіла Валеры нялёгка. І ўсё ж яна ўдзячная лёсу за тое, што такая гісторыя здарылася з ёй і Раманам. Яна дапамагла раскрыць новыя якасці адно ў адным, стаць больш дарослымі і вывесці адносіны на глыбейшы ўзровень, чым яны былі раней.

## «Ён патэлефануе і скажа, каб мы выклікалі яму таксі»

— У мяне няма адчування, што я развіталася з ім на чатыры гады, — зазначае Валерыя. — Мне здаецца, так думае любы чалавек, які здольны аналізаваць. Калі паглядзець хаця б на эканамічны аспект — усё становіцца зразумела. Я веру, што ў гэтым годзе ён будзе дома.

Валерыя чакае каханага і ўяўляе, як будзе выглядаць дзень яго вызвалення. Яна мяркуе, што гэта здарыцца нечакана.

— Ён патэлефануе з незнаёмага нумара і скажа, каб выклікалі яму таксі. Я ўпэўнена, што гэта будзе, калі рэзка ў адзін дзень усіх выпусцяць.

Пасля вызвалення дзяўчына марыць з'ехаць з каханым на нейкі час адпачыць на мора. Але зусім з'язджаць з Беларусі яна не хацела б: пераканана, што і яна, і Раман могуць прынесці карысць тут. Праўда, зазначае Валерыя, усё будзе залежаць ад таго, у якой краіне Раман выйдзе на волю. Калі тут усё застанецца па-ранейшаму, магчыма, давядзецца з'ехаць.

Пакуль жа дзяўчына перадае каханаму, што тут усё працягваецца, і ўсё будзе добра, і што дома яго чакаюць. Трэба не адчайвацца, азірнуцца назад, убачыць, колькі ўжо пройдзена, і верыць, што лепшае абавязкова наступіць.

— Я вельмі хачу яму сказаць, каб ён ні на секунду не сумняваўся ні ў сабе, ні ў нас. З намі ўсё нармальна, і ніхто не думае апускаць рукі, усе гатовыя змагацца. А яшчэ — ён неверагодна моцны, сапраўдны воін дабра!

**Фота прадастаўлена гераіняй матэрыяла**

# «Следчы прасіў мяне размаўляць па-руску»

Ганна ЕРМАКОВІЧ

**Пра асабістую гісторыю супраціву і лёс беларускай мовы за кратамі нам распавялі тыя, хто трапляў у ізалятар за сваю пазіцыю.**



### Ганна, 31 год: «У аўтазаку я размаўляла па-беларуску»

Паэтка, перакладчыца, грамадская актывістка Ганна жыве ў Мінску. Яна размаўляе па-беларуску з 2015 года, калі пачала наведваць Беларускі Калегіюм.

— Размаўляць на беларускай мове хацелася яшчэ ў школьныя гады, але для мяне было вельмі істотна знайсці беларускамоўны асяродак. У 2015 годзе гэта атрымалася дзякуючы Беларускаму Калегіюму. Тады я пачала паступова пераходзіць на беларускую. Цяпер 90 адсоткаў размоваў я вяду па-беларуску.

Ганна была затрыманая 8 верасня ў час маршу ў падтрымку Марыі Калеснікавай. Марш рушыў ад Камароўкі, потым збочыў на праспект Машэрава. Яе разам з іншымі пратэстоўцамі прыціснулі ля сцяны культурнага цэнтру «Корпус». Гэтыя затрыманні жанчын трапілі на мноства здымкаў, якія потым выкарыстоўвалі розныя медыя дзеля ілюстрацыі агрэсіі з боку міліцыянтаў.

— Затрыманне было нечаканым. Я проста ішла, з кімсьці размаўляла… Моцнай небяспекі не адчувалася. Раптам пад'ехалі аўтазакі, з іх выйшлі мужчыны ў аліўкавай і чорнай форме, былі сярод іх і людзі без формы. Я адразу рынулася пад елку, да сцяны. Гэта рашэнне было памылковым. Але там сабраліся і іншыя пратэстоўцы. Мы адразу ўзяліся ў счэпкі, хутка штосьці пачало адбывацца, некаторых забіралі. Я стаяла ў першым шэрагу, моцна абдымаючы нейкую жанчыну, якая стаяла побач, каб яе не аддаць і самой не абаніцца. Мы ўсе дрыжалі, крычалі, спявалі… Потым чалавек у аліўкавым зрабіў нам вельмі дзіўную прапанову: выпусціць са шчэпак мужчын-пратэстоўцаў. Нібыта пры гэтай умове нас, жанчын, адпусцяць. У нас тады ўключылася такая ўпартасць! «У якім сэнсе вы мужчын забераце? Мы тут прыйшлі ўсе разам, гэта нашы мужчыны, і мы нікога вам не аддадзім!» Потым счэпкі паступова пачалі разрываць, і я ўпала разам з іншымі жанчынамі.

Перад падзеннем я вельмі абуралася на «аліўку», які стаяў насупраць. Казала яму па-руску: «Уходите, уходите!» У мяне з імі ўключаецца руская мова, каб яны дакладна зразумелі. Ну скажы ім: «Свабоду мірных сходаў!», яны ж падумаюць: «А што такое ўвогуле "сходаў", вы пра што?» У такія моманты няма часу нешта тлумачыць, таму я пераходжу на рускую.

І вось калі я ўпала, то заўважыла, што ён, гэты «аліўка», неяк сумеўся. У ягоных вачах было нешта кшталту: «Божачкі, гэтае беднае дзіцё ўпала». А я хоць і дарослая жанчына, але выглядаю сапраўды як дзіця, галасочак яшчэ такі высокі. Ён паўтараў: «Помогите девушке подняться».

У аўтазаку я размаўляла па-беларуску. Ніякай негатыўнай рэакцыі на гэта не было. З намі ехалі двое мужчын у чорным. Ім вельмі хацелася выглядаць разумнымі, адзін нават спытаў (невядома да чаго), якую апошнюю кнігу я прачытала. А я ж паэтка, сама пішу кніжкі, таму разззлавалася нават.

У Першамайскім РУУСе нас змясцілі ў спартовую залу, там я таксама размаўляла па-беларуску. Нас прывезлі, паставілі ў шэраг, загадалі пакласці перад сабой рэчы. Там хадзіў адзін малады міліцыянт з моднай фрызурай, маска ў яго таксама была модная. Я штосьці сказала па-беларуску, дык ён гэта паўтарыў передражніваючы. Было крыху крыўдна, але ў тых умовах амаль не звяртаеш увагу на падобнае.

Я размаўляла па-беларуску ў кабінеце следчага. Ён перыядычна перапытваў нейкія словы, рабіў гэта даволі карэктна. Але ў нейкі момант кажа: «А вы могли бы разговаривать по-русски?» На што я адказала: «Не, гэта маё права размаўляць па-беларуску». І следчы такі: «Я вас не заставляю, я прошу».

Нас пратрымалі ў Першамайскім РУУСе да чацвёртай гадзіны раніцы, а потым прывезлі на Акрэсціна. А дзясятай гадзіне быў суд. Я чакала яго ў калідоры. Там быў нейкі міліцыянт, як я зразумела, галоўны на паверсе. Ён увесь час чапляўся да мяне з-за беларускай мовы. А пазней выйшаў нейкі мужчына з кабінету, далучыўся да размовы і запытвае: «Ну вот скажите честно, почему вы по-белорусски разговариваете? Чтобы выделиться или по зову души?»

Пазней гэты ж мужчына нам сказаў: «Девушки, вы скрашиваете наши будни, бывайте у нас почаще!» Разумееце, я сяджу на Акрэсціна, ноч не спала, у мяне не было нармальнага сняданка, бо аўсянка, якую там даюць, — сама па сабе катаванне, мяне судзяць, а ён кажа: «Бывайце часцей».

На суткі мяне перавезлі ў Жодзіна. Там са сваімі дзяўчатамі-сукамерніцамі я размаўляла па-беларуску, а з супрацоўнікамі — па-руску. Гэта атрымалася неяк само сабой. Напэўна, настолькі мне было трывожна, што дзеля падстрахоўкі я аўтаматычна пераходзіла на рускую мову. Хаця сярод супрацоўнікаў былі зусім маладыя хлопцы, напэўна з вёскі, размаўлялі крыху трасяначкай. Ужо потым я думала, што можа і не варта было з імі на рускую пераходзіць. Але было так, дысанансна: у камеры я размаўляю па беларуску, з супрацоўнікамі адразу пераключаюся на рускую.

### Зміцер, 50 гадоў: «Калі адказваў па-беларуску, ніхто не перапытваў»

Зміцер працуе інжынерам-сантэхнікам. Акрамя таго, мужчына піша вершы, натхняючыся актуальнымі падзеямі ў краіне, і малюе выдатныя плакаты, каб падтрымаць беларускі рух супраціву. У 2019 годзе Зміцер зрабіў плакат, прысвечаны гадавіне варты абароны Народнага мемарыяла Курапаты. Гэты прынт быў надрукаваны на цішотках крамы Symbal.by. Зміцер перайшоў на беларускую мову напрыканцы 2016 года.

— Апошнім штуршком да канчатковага рашэння размаўляць на беларускай мове стала спрэчка з маім сваяком, дзядзькам, які жыве на хутары. Ён добры чалавек, але крыху адсталы. Зайшла размова пра беларускасць, мову, сцяг (мой сцяг быў і ёсць бел-чырвона-белы). І вось тады ён паставіў мяне на месца наступнай фразай: «А што ж, калі ты такі ўжо беларус, на беларускай мове не размаўляеш?» Я зразумеў, што ў гэтым дзядзька мае рацыю. Так я пачаў паўсюль размаўляць па-беларуску.

11 жніўня знікла дзяўчына Зміцера. Пачуццё адчаю і безвыходнасці вымусіла яго выйсці ў той вечар на акцыю пратэсту. Відэа моманту яго затрымання на YouTube-канале TUT.BY паглядзелі 75 тысяч карыстальнікаў.

— У той дзень я зайшоў у аптэку, набыў там бінтоў і антысептыкаў на выпадак, каб можна было камусьці дапамогу аказаць, калі спатрэбіцца. Завітаў да сваёй дзяўчыны, Алеські, а потым пайшоў дахаты. Бліжэй да вечара тэлефанаваў Алесі некалькі разоў, але ніхто не адказваў. Перад гэтым яна казала, што пойдзе ў краму па прадукты. Алеся знікла. Я зразумеў, што яе скралі.

Я пайшоў дахаты, узяў сцяг Ваенна-Марскога Флоту, пад якім служыў, і паехаў на «Рыгу». Там разгарнуў сцяг, маладыя хлопцы цікавіліся, што за ён. Потым прыехалі людзі з дубінкамі і шчытамі, усіх разагналі, і так атрымалася, што я застаўся адзін са сцягам. Насупраць стаялі некалькі чалавек у вайсковым, цэлілі ў мяне з нейкай зброі (па вачах мне трапляла лазерам). Падумаў, што будуць страляць. Патрабаваў Алеську сваю. Да мяне са спіны падышлі два апамаўцы, павалілі на зямлю, некалькі разоў ударылі дубінкамі, заламалі руку.

Мяне кінулі ў аўтазак, дзе было ўжо шмат затрыманых. Кінулі проста на людзей, яны ляжалі там на падлозе. Я шукаў магчымасць, каб на людзях не ляжаць, не ціснуць, бо яны ажно хрыпелі.

Калі нас перагружалі ў іншую машыну, білі палкамі ўсіх па чарзе. Выбягаючы, трэба было крычаць: «Я люблю ОМОН». Я пра сябе думаў, як можна было крычаць, каб было не так ганебна. Вырашыў крычаць: «Я люблю Нямон» (так у аднайменнай песні гурта «Стары Ольса» называецца рака Нёман. — НЧ). Гэта не так ганебна, калі цябе б'юць.

Калі я адказваў амапаўцам па-беларуску, ніхто не перапытваў. Я чакаў агрэсіі, але абышлося. Перайшоў на рускую я толькі адзін раз, ужо на Акрэсціна, калі запісвалі мае дадзеныя. Мне ў спіну тыркнулі палкай, калі я, называючы адрас, сказаў «завулак». Тады я зразумеў, што ім нязручна, калі я размаўляю па-беларуску, і трэба назваць адрас на зразумелай ім мове.

Усю наступную ноч мы сталі на вуліцы — з перапынкамі то на каленях, то на кукішках. Потым нас правялі ў нейкае невялікае бетоннае памяшканне з кратамі зверху. Там мы сталі да вечара наступнага дня, а потым перагналі ў нейкую камеру, дзе ўжо была вада, прыбіральня… Ночку пайшлі чуткі, што будуць адпускаць. Увесь час былі нейкія пераклічкі, называліся прозвішчы… Раптам я пачуў, што мяне назвалі. Выпусцілі ў калідор, паставілі ўздоўж сцяны. Усім далі нейкую паперу, сказалі падпісваць. Я адказаў, што без акуляраў не бачу. Міліцыянт сказаў, што гэта афіцыйнае папярэджанне, што я не павінен больш удзельнічаць у акцыях пратэсту. Мне ўжо было цяжкавата нешта ўспрымаць. Іншыя пачалі падпісваць, я таксама падпісаў. Нас вывелі на вуліцу, перад выхадам за браму дзялілі па 4–6 чалавек і выпускалі. Калі мяне выпусцілі, была такая шэрая раніца… Я ўжо даволі далёка адышоў, і дагнаў мяне нейкі мужчына, увесь сіні, моцна пабіты. Крычыць мне: «Зміцер!» Я спытаў, адкуль ён мяне ведае. Высветлілася, што яго разам са мной забралі на «Рызе». Я яму запомніўся менавіта тым, што размаўляю па-беларуску.

Алеську сваю я знайшоў пазней. Яе затрымалі, была ў савецкім РАУСе. Дзякуй Богу, не пабілі, але моцна там напалохалі.

Праз 2 месяцы прыйшла мне паперка з Партызанскага суда. Там было напісана, што мая справа спыненая, бо мінуў двухмесячны тэрмін. Гэтую паперку я разглядаю як такі жэст: «Бачыш, які падарунак мы зрабілі. Ледзьве не забілі, але па законе працуем».




**Фота прадастаўлены героямі матэрыяла**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Правадырка чырванаскурых

Галоўная кандыдатка ад Партыі Зялёных Берліна на выбарах у мясцовы парламент Беціна Яраш стала героем незвычайнага скандалу. Усё пачалося з таго, што на партканферэнцыі яе спыталі, кім яна хацела быць у дзяцінстве. Яна адказала, што ў дзіцячыя гады марыла быць «правадыром індзейцаў».

Гэты адказ адразу ж выклікаў падазрэнні, што маладая Беціна магла адзявацца ў індзейскі касцюм і наносіць сабе на твар індзейскую баявую размалёўку. З нядаўніх часоў у некаторых палітычных колах гэта лічыцца практыкай так званага «культурнага прысабечвання», якую трэба разглядаць як расізм і дыскрымінацыю. Беціна, рэагуючы на крытыку, вырашыла не рызыкаваць і пагадзілася, што ў дзяцінстве сапраўды паводзіла сябе не вельмі карэктна.

Аднапартыйцы, падобна, даравалі таварышу. Галоўным чынам таму, што ў берлінскіх эколагаў раптам паўстала новая праблема. Аказалася, што ў партыйным спісе няма ніводнай жанчыны — нашчадка імігрантаў. А гэта для Зялёных — вялікая ганьба. Цяпер ідзе актыўны пошук такіх асобаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Увайшоў у ролю

Зрабіць кар'еру ў палітыцы дапамагаюць розныя фактары. А вось акцёру Нурлану Аліжанаву атрымаць пасаду (у яго выпадку — у адміністрацыі сталіцы) дапамагло знешняе падабенства з маладым Елбасы. Менавіта таму ў свой час яго запрасілі выконваць ролю маладога Нурсултана Назарбаева ў кінаэпапеі «Шлях лідара».

Мастацкія вартасці таго твора досыць спрэчныя. Аднак яго стваральнікам і акцёрам, хутчэй, была важная думка толькі аднаго чалавека. Гаворка пра Назарбаева, які высока ацаніў фільм пра сябе, і да таго ж станоўча адзначыў працу Нурлана.

Пасля гэтага кар'ера акцёра пайшла ўгару. За стварэнне на экране вобраза першага прэзідэнта Казахстана Алімжанаву ў 2013 годзе прысвоілі званне Заслужанага дзеяча Казахстана. У 2019 годзе Алімжанаў стаў дэпутатам Мажыліса — парламента Казахстана. Цяпер выканаўца ролі Елбасы трапіў у кіраўніцтва сталічнай мэрыі — і, магчыма, гэта не апошняя прыступка ў яго кар'еры.

**Паводле казахстанскай прэсы**

### РАСІЯ. Навошта Жырыноўскі выў ваўком?



У праграме «Вечар з Уладзімірам Салаўёвым» 28 сакавіка лідар ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі назваў неардынарны спосаб пазбегнуць Трэцяй сусветнай вайны. Ён прапанаваў кіраўнікам ЗША, Кітая і Расіі выць па-воўчы, і таксама прадэманстраваў уласныя навыкі ў гэтай галіне. Такая незвычайная выхадка выклікала ў прысутных на шоу істэрыку смеху, а ў інтэрнэце — дэбаты наконт прыроды незвычайнага перфоманса.

Вядома, шмат людзей ставяць Жырыноўскаму медыцынскія дыягназы. Аднак некаторыя дапускаюць, што той свядома шакаваў аўдыторыю. Яго енк у тэлеэфіры адразу выклікаў цікавасць простых людзей да яго персоны і да партыі ліберал-дэмакратаў напярэдадні восеньскіх думскіх выбараў.

Нарэшце, самая арыгінальная версія — падазраюць, што Жырыноўскі проста вырашыў дыскрэдытаваць расійскі палітыкум у вачах усяго свету ў рамках асабістай помсты Пуціну за нядаўні арышт блізкага да ліберал-дэмакратаў бізнесоўца.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Лізавета Другая — каралева Украіны?

Нядаўняя рэзанансная заява Меган Маркл, жонкі прынца Гары, пра наяўнасць у каралевы Вялікабрытаніі Лізаветы расісцкіх забабонаў можа мець наступствы, цікавыя для Брытанскай садружнасці (асацыяцыя краін, якія ўваходзілі ў склад Брытанскай імперыі і дасюль прызнаюць каралеву як фармальнага кіраўніка). Сярод чальцоў аб'яднання ёсць дзяржавы, дзе чарнаскурыя складаюць большасць.

Некаторыя з іх лічаць ганебным той факт, што, няхай і фармальна, іх краінай кіруе каралева-расіст. Найбольш далёка пайшлі на Ямайцы, дзе прапануюць паставіць пытанне пра адстаўку Лізаветы Другой з пасады кіраўніцы каралеўскага дому. Калі Букінгемскі палац праігнаруе заклікі, ямайцы збіраюцца выйсці са складу аб'яднання.

Аднак нечакана на планеце з'явілася дзяржава — прэтэндэнт на тое, каб, наадварот, далучыцца да аб'яднання. Гаворка пра Украіну, дзе дарадца мясцовага Саўбезу Павел Жаўнірэнка дапусціў падобны варыянт. На думку Жаўнірэнкі, сяброўства Украіны ў Брытанскай садружнасці дапаможа сарваць імперскія планы Крамля.

**Паводле брытанскай і ўкраінскай прэсы**

# «Мова — гэта дыялект, у якога ёсць армія і флот»

Алег НОВІКАЎ

**Шатландыя набліжаецца да новага рэферэндуму пра незалежнасць — і цяпер усё часцей сталі гучаць заклікі пра наданне шатландскай мове больш высокага статусу.**




Фота www.lenoblinform.ru

«Хуло» замест «хэло» і «вулам» замест «вэлкам». Так кажуць шматлікія жыхары Шатландыі. Як сведчыць сацыялогія, такіх людзей дастаткова шмат. Колькасць актыўных носьбітаў шатландскай мовы ацэньваецца ў 1,5 мільёна (з 4 мільёнаў чалавек, якія жывуць у Шатландыі). Астатнія валодаюць тымі ці іншымі прамежкавымі формамі паміж стандартнай англійскай і архаічнай шатландскай. Захавалася ў краі і гістарычная мова — гэльская, якая адносіцца да кельцкіх моваў. Аднак размаўляюць на ёй толькі каля 50 тысяч чалавек, або каля 1% насельніцтва Шатландыі.

Менавіта на адраджэнне і папулярызацыю гэльскай мовы доўгі час арыентаваліся мясцовыя нацыяналісты. Вынікам іх актыўнасці стаў прыняты ў 2005 годзе Закон аб гэльскай мове, «накіраваны на замацаванне гэльскай у якасці афіцыйнай мовы Шатландыі, да якой павінны ставіцца з такой жа павагай, як да англійскай». Закон галоўным чынам выкарыстоўваецца для стварэння планаў па вывучэнні гэльскай мовы дзяржаўнымі чыноўнікамі Шатландыі. Акрамя таго, дзякуючы яму фінансуюць гэльскія медыя і нават была адкрытая адна гарадская школа.

Не забывалі і пра шатландскую. Хаця б таму, што пасля асіміляцыі шатландцаў, прыкладна з 1400-х гадоў, шатландская мова была афіцыйнай мовай у Каралеўстве Шатландыя. Акты мясцовага парламента былі напісаныя на шатландскай. Сярод тых, хто пісаў на ёй літаратурныя творы, быў славуты Роберт Бёрнс. Шатландскую сёння можна вывучаць ва ўніверсітэтах Абердзіна, Эдынбурга, Глазга. ЮНЭСКА прызнае шатландскую мову моваю, як і Еўрапейскі саюз. Пры гэтым асаблівa пытанне шатландскай мовы не палітызавалася — у адрозненне ад праблемы з гэльскай.

Стаўленне да яе пачало рэзка мяняцца на фоне цяперашніх спробаў нацыяналістаў дабіцца незалежнасці рэгіёну. Па-першае, наяўнасць у рэгіёне асобнай мовы надае шатландцам дадатковыя правы патрабаваць суверэнітэт. Па-другое, дастаткова ўмоўная мяжа паміж мясцовай англійскай і шатландскай дазваляе перацягваць на бок ідэі незалежнасці англамоўных жыхароў краю.

У мінулым годзе адбылася спецыяльная канферэнцыя Шатландскай нацыянальнай партыі (SNP), прысвечаная праблеме шатландскай мовы. Па яе слядах нарадзілася ідэя замацаваць правы спецыяльным актам, накшталт Акту ў абарону гэльскай мовы. Напрыканцы мінулага года ў шатландскім парламенце прайшлі першыя слуханні, што варта рабіць з шатландскай мовай. Пры гэтым дэпутаты намагаліся выступаць па-шатландску. З мінулай восені ідзе грамадская кампанія за правы шатландскамоўных.

**Наяўнасць асобнай мовы надае шатландцам правы патрабаваць суверэнітэт. А ўмоўная мяжа паміж мясцовай англійскай і шатландскай дазваляе перацягваць на бок незалежнасці англамоўных**

Адначасова нарадзіліся і набылі адносную папулярнасць тэорыі, аўтары якіх ставілі пад пытанне тэзу, што шатландцы перайшлі на англійскую ў выніку моўнай асіміляцыі, якая часам мела гвалтоўны характар. Новыя тэорыі даводзяць, што шатландская мова — не фрагмент англійскай, а цалкам самастойны кірунак. Ідзя ў тым, што шатландская мова, мяркуюць, паходзіць ад аднаго з паўночных дыялектаў стараанглійскай мовы, а цяперашняя стандартная англійская — прадукт паўднёвай старажытнай англійскай.

Такі падыход выклікаў дэбаты ў навуковых колах. Філолагі, якія лічаць шатландскую мову дыялектам, прызнаюць, што ў горцаў трошкі іншыя слоўнікавы запас і маўленне. Аднак, на іх думку, выключна лексіка і вымаўленне не робяць гаворку мовай. Больш фундаментальнай, як кажуць яны, застаецца граматыка — і тут адрозненні ад англійскай не такія вялікія. Напрыклад, шатландцы кажуць: «я іду ў свой ложак», у той час як англічане — папросту «іду спаць». Звяртаецца ўвага, што, як паказваюць мапы шатландскага сінтаксісу, шатландская мова вар'юецца ўнутры краю.

Свае пяць капеек у гэтую дыскусію нечакана ўставілі і праеўрапейскія СМІ, якія бачаць незалежную Шатландыю будучым чальцом Еўрасаюза. Яны прапануюць аматарам тэзісу пра тое, што шатландская — гэта дыялект, накіравацца ў Данію і паспрабаваць давесці датчанам, што тыя размаўляюць на нарвежскім дыялекце.

На жаль, за кадрам гэтых дэбатаў і спрэчак застаецца пытанне лёсу гэльскай мовы — у выніку магчымага ўзмацнення прававога статусу шатландскай. Ці не будзе яна цалкам маргіналізаваная ў перспектыве?

Пакуль аматары гэльскай выступаюць за замацаванне статусу шатландскай з прычыны салідарнасці перад спробамі моўнай дыскрымінацыі. «У грамадстве па-ранейшаму шмат лінгвістычнага невуцтва, снабізму, забабонаў альбо моўнага расізму. Гэта проста неразумна, калі нешматлікія людзі, здаецца, ведаюць, як і на якой мове трэба размаўляць іншым», — піша адна з актывістак руху ў мясцовай газеце The National.

Хутчэй за ўсё, месца гэльскай і шатландскай моваў будзе вырашацца, сыходзячы з будучай палітычнай сітуацыі, і ў тым ліку ў кантэксце спробаў шатландцаў атрымаць незалежнасць. Часопіс The Economist з гэтай нагоды адзначае: «Прызнанне шатландскай у якасці афіцыйнай мовы можа быць падмацавана не граматычнымі аргументамі, а палітычнымі. Як гаворыцца ў старой прыказцы, "мова — гэта дыялект, у якога ёсць армія і флот"».

# Як абразіць прэзідэнта?

Алег НОВІКАЎ

**На фоне спраў і судовых працэсаў за абразу беларускіх сілавікоў і чыноўнікаў цікава назіраць за сітуацыяй у Польшчы. Тут завялі крыміналку на пісьменніка, які назваў прэзідэнта «дэбілам».**


Фота www.baj.by

Наогул, не толькі Польшча лічыць абразу кіраўніка дзяржавы злачынствам. У іншых еўрапейскіх краінах, у тым ліку ў Германіі, Італіі і Іспаніі, за абразу прэм'ера ці прэзідэнта таксама можна атрымаць тэрмін або штраф. Аднак з Польшчай — выпадак асобны, паколькі тутэйшае грамадства абапіраецца на каштоўнасці і спадчыну супраціву камуністычнаму аўтарытарызму, якому быў уласцівы культ асобы і недатыкальнасць рознага кшталту генсекаў.

У любым выпадку, пачалася гэтая эпапея ў лістападзе 2020 года, калі сталі вядомыя вынікі выбараў прэзідэнта Злучаных Штатаў. Адрэагавала на перамогу Джо Байдэна і каманда прэзідэнта. 7 лістапада Дуда выклаў твіт, у якім павіншаваў Байдэна з «паспяховай прэзідэнцкай кампаніяй», адзначыўшы, што фармальна да рашэння калегіі выбаршчыкаў прэзідэнт не лічыцца абраным.

Такую асцярожную фармулёўку віншавання з Варшавы можна растлумачыць тым, што Дуда лічыўся партнёрам Дональда Трампа. Акрамя таго, шанцы апошняга дамагчыся перагляду вынікаў галасавання на той момант выглядалі някепска.

Сярод іншых на твіт гаранта адрэагаваў 37-гадовы літаратар Якуб Зульчык. У сваім каментары пад запісам Дуды ён адзначыў, што кіраўнік Польшчы дэманструе неразуменне, як працуе амерыканская сістэма. У выніку гэта дало яму падставу прыпісаць наступнае: «Джо Байдэн — 46-ты прэзідэнт ЗША. Анджэй Дуда — дэбіл».

Нельга сказаць, што запіс выклікаў асаблівы рэзананс. Тады дыягназ ментальнага стану гаранта з боку літаратара амаль не заўважылі. Казаць пра яго пачалі на мінулым тыдні, калі пракуратура прад'явіла Зульчыку абвінавачанне ў адпаведнасці з 135-м артыкулам Крымінальнага кодэкса Польшчы, які прадугледжвае да трох гадоў турмы за публічную абразу кіраўніка дзяржавы.

Увогуле, спраў наконт абразаў прэзідэнта пасля 1989-га (года пачатку дэмакратычнай трансфармацыі) за Бугам заўжды хапала. Усе прэзідэнты без выключэння ўдастоіваліся не вельмі ўхвальных эпітэтаў і мянушак ад сваіх грамадзян. Заводзіліся таксама і справы, якія, праўда, не мелі вынікаў.

У гэтым плане няма сумневу, што вердыкт Феміды па справе Зульчыка будзе дастаткова мяккі. Але для грамадскасці важны сам прэцэдэнт. Тое, што за слова «дэбіл» можна атрымаць позву ў пракуратуру, ліберальная апазіцыя трактуе праз прызму палітычнага працэсу. Яго характарызуе курс ураду на абмежаванне палітычных свабодаў.

Цікавая дыскусія ўзнікла з нагоды самой практыкі пакарання за абразы афіцыйных асобаў. Варта адзначыць, што польскае заканадаўства — абсалютны еўрапейскі рэкардсмен наконт законаў, якія тычацца абразаў асобаў, пачуццяў, сімвалаў і гэтак далей.

Таму сярод юрыстаў вельмі папулярная ідэя скарыстацца справай Зульчыка для лібералізацыі ў гэтай галіне. «Ніхто не супраць законаў, якія абараняюць годнасць кіраўнікоў дзяржаў, але справы па гэтых артыкулах павінны разглядацца ў рамках грамадзянскага, а не крымінальнага працэсу», — піша мясцовая прэса.

**Адзіны варыянт для Дуды — тэрмінова ўнесці законапраект, які зробіць артыкул за абразу афіцыйнай асобы больш мяккім. Такім чынам Дуда можа не толькі палепшыць свой імідж, але і паказаць, што гатовы да крытыкі**

Іншыя юрысты прапануюць абмежаваць пакаранне за абразу крайнімі выпадкамі, якія ў агульнапрынятым разуменні выходзяць далёка за межы публічнага дыскурсу. Асноўная думка наступная: калі дзяржава адчувае сябе ў бяспецы, яна не мае патрэбы ў абароне з дапамогай крымінальнага права.

Для некаторых палякаў анекдатычная сама тэма, што Дуда мог адчуць сябе пакрыўджаным праз тое, што ў сеціве (дзе, як вядома, хапае лаянкі) нехта назваў яго непрыгожым словам. Гэта супярэчыць прынцыпам еўрапейскай юрыспрудэнцыі, якія сцвярджаюць, што грамадскія і палітычныя дзеячы павінны мірыцца з рознымі формамі крытыкі і ўспрымаць падобную крытыку інакш, чым прыватныя асобы.

Сам Дуда, дарэчы, узяў дыстанцыю ад учынкаў пракуратуры. Яго прэс-сакратар заявіў, што ні прэзідэнт, ні яго офіс не ўдзельнічаюць у справе Зульчыка. Але такая пазіцыя выклікала адваротную супярэчнасць, на якую звярнуў увагу адзін з выкладчыкаў права Варшаўскага ўніверсітэта. «Калі прэзідэнт адчувае сябе абражаным, ён можа падаць хадайніцтва ў пракуратуру, і пракурор можа пачаць пераслед. Аднак у дадзеным выпадку асабіста пракурор вырашае, адчувае прэзідэнт абразу праз каментар або не? Гэта маразм!» — кажа ён.

Выданне Rzeczpospolita развівае гэты тэзіс — і нават прапануе распачаць справу супраць пракурора па артыкуле… за абразу прэзідэнта. Хіба ўчынкі пракурора не паставілі Анджэя Дуду ў вельмі смешнае становішча, не падарвалі яго аўтарытэт, задае пытанне аўтар артыкулу.

На думку аўтара публікацыі Rzeczpospolita, адзіны варыянт для Дуды, калі ён хоча захаваць твар, тэрмінова ўнесці ў Сейм законапраект, які зробіць артыкул за абразу афіцыйнай асобы больш мяккім. «Такім чынам Дуда можа не толькі палепшыць свой імідж, але і паказаць, што гатовы да крытыкі», — адзначае журналіст

Як бачым, у польскай улады ёсць спосабы, як захаваць павагу грамадзян. Аднак як беларускай давесці, што яна гатовая да крытыкі, цяжка сказаць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мін Аун Хлайн



Генерал, які ачольвае хунту, што прыйшла да ўлады ў М'янме пасля адхілення ад ўлады грамадзянскага ўрада ў лютым, атрымаў новыя праблемы.

Як вядома, пасля перавароту пачаліся сутыкненні вайскоўцаў і тых, хто выступае за дэмакратычны лад. Ахвярамі канфлікту толькі за мінулыя выходныя сталі 114 чалавек. Агульная колькасць тых, хто загінуў з пачатку лютага, дасягнула як мінімум 459 чалавек.

Аднак цяпер хваляванні ў найбуйнейшых гарадах краіны прывялі да ўзмацнення супрацьстаяння цэнтральных уладаў і сепаратыстаў у рэгіёнах. У М'янме дзейнічаюць некалькі суполак, якія выступаюць за дзяржаўнасць для сваіх этнічных груп. У мінулыя выходныя актывізавалася самая моцная з іх, Карэнская народна-вызваленчая армія (KNLA), якая абапіраецца на карэн — народ, што пражывае ля мяжы з Тайландам і значная частка якога вызнае хрысціянства.

У адказ на атакі KNLA ўлады ўжылі авіяцыю, якая забіла некалькі чалавек. Жыхары былі вымушаныя хавацца ў лесе, а 2,5 тысячы чалавек увогуле перайшлі тайландскую мяжу. Прэм'ер-міністр Тайланда, рэагуючы на сітуацыю, заявіў, што ўлады гэтай краіны паклапоцяцца пра ўцекачоў і іх правы.

Да карэнаў могуць далучыцца і іншыя этнасы, напрыклад, мусульмане з народу рахінджа — адзінага народа М'янмы, якому ўлады адмаўляюць у аўтаноміі. Эксперты не думаюць, што вылазкі ўяўляюць фатальную пагрозу для Мін Аун Хлайна. Аднак выкарыстанне авіяцыі супраць паўстанцаў і ўцёкі насельніцтва дакладна пагоршаць імідж рэжыму вайскоўцаў у свеце.

### Дзмітрый Кулеба



Кіраўнік украінскай дыпламатыі пачаў барацьбу супраць спробаў Расіі перагледзець вядомы імідж украінскага класіка Тараса Шаўчэнкі. Як мінімум так было расцэнена інфармацыйнае паведамленне пра тэлемост Кіеў — Масква.

У гэтым паведамленні расійскі бок назваў Тараса Шаўчэнку «руска-ўкраінскім паэтам». Кіеў перайшоў у контратаку. Прэс-служба ўкраінскага МЗС заявіла, што адмаўляе «расійскія наратывы пра Тараса Шаўчэнку». Таксама падкрэсліваецца «нацыянальная самаідэнтыфікацыя Кабзара як непрымірымага змагара за нацыянальнае і духоўнае адраджэнне Украіны, вызваленне радзімы з-пад прыгнёту Расіі».

У адказ у Расіі і сярод прарасійскай фракцыі ўкраінскай апазіцыі звяртаюць увагу, што Кабзар большую частку жыцця пражыў на тэрыторыі цяперашняй Расіі, пісаў прозу на рускай мове і паспеў нават стаць сябрам расійскай акадэміі мастацтваў.

Між тым, гучыць меркаванне, што Тарас Шаўчэнка ў выніку многіх дзесяцігоддзяў ідэалагічнай прапагандыператварыўся ў сапраўднага ідала. Мала хто ведае, што помнікаў Шаўчэнку ў свеце паставіла амаль 1400 — і, мабыць, іх не менш за колькасць статуй Хрыста. У гэтым плане прапануецца адмовіцца ад клішэ і ўспамінаць Шаўчэнку выключна як жывога чалавека, які запомніўся сучаснікам як франт і аматар пасядзелак.

### Жэральд Дарманен



Міністр унутраных спраў Францыі стаў чарговым палітыкам, чыя кар'ера аказалася пад пагрозай з-за Напалеона Банапарта (200-ю гадавіну яго смерці Францыя будзе адзначаць у траўні).

Міністр выдаў кнігу, у якой пракаментаваў палітыку Напалеона ў дачыненні да яўрэяў. Імператар працягнуў лінію французскіх рэвалюцыянераў, якія зрабілі іх раўнапраўнымі грамадзянамі-французамі. Напалеон адмяніў законы, якія патрабавалі ад гэтай катэгорыі насельніцтва жыць выключна ў гета. Былі скасаваныя і законы, якія абмяжоўвалі правы яўрэяў на ўласнасць, набажэнства і пэўныя заняткі.

Аднак, імкнучыся спрыяць інтэграцыі яўрэяў у французскае грамадства, імператар патрабаваў, каб яўрэі абіралі французскія імёны, і абмежаваў рэгіёны, у якія было дазволена міграваць.

Дарманен станоўча выказаўся пра меры, што здзейсніў Напалеон на гэты конт, сцвярджаючы, што такім чынам улады спрабавалі вырашыць «праблему інтэграцыі». Такая ацэнка і выклікала крытыку з боку часткі французскіх праваабаронцаў і палітыкаў. На іх думку, чыноўнік спасылаецца на Напалеона, каб атрымаць алібі для праследу мусульман-мігрантаў, якія не хочуць прымаць французскі лад жыцця. Некаторыя наогул патрабуюць адстаўкі Дарманена як «расіста». Усё гэта кажа, што ўрачыстасці будуць праходзіць у напружанай палітычнай атмасферы.

# Васіль Быкаў называў яго аднадумцам і сябрам



Сяргей ШАПРАН

**30 сакавіка споўнілася 90 гадоў Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу, славутаму гродзенскаму літаратуразнаўцу, педагогу і краязнаўцу. Рыгор Барадулін называў яго «самадзержцам нашай роднай культуры», Васіль Быкаў дзякаваў за яго працу на ніве беларушчыны, а Уладзімір Караткевіч, ставячыся «з велічэзнай павагай да яго плённай і высакароднай дзейнасці», пісаў: «Праўда, Вы столькі робіце, што нам трэба зямно Вам кланяцца».**

## У вытокаў

Аляксей Пяткевіч знаходзіўся, як прынята казаць у падобных выпадках, у вытоках развіцця філалагічнай адукацыі на Гродзеншчыне: у 1968 годзе ён узначаліў толькі што створаную кафедру беларускай літаратуры Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы (цяпер — Універсітэта імя Янкі Купалы), які з цягам часу стаў для яго роднай alma mater.

Зрэшты, у Гродна Пяткевіч патрапіў выпадкова. Справа ў тым, што ў часе размеркавання ў БДУ яму прапанавалі месца ў Акадэміі навук, але малады аспірант з гатовай дысертацыяй па творчасці Кузьмы Чорнага хацеў не за сталом сядзець, хай сабе ў Інстытуце літаратуры, а выкладаць гэту самую літаратуру. У выніку ён памяняўся месцамі з хлопцам, у якога было накіраванне ў Гродна.

Працаваць пачынаў на кафедры літаратуры, якая аб'ядноўвала ўсе літаратуры разам — беларускую, рускую і замежную. Калі ж кафедра літаратуры і мовы раздзялілася на беларускую і рускую, Пяткевіч быў прызначаны загадчыкам. І гэта ў той час, калі не хапала спецыялістаў і адпаведнай літаратуры, і малады загадчык кафедры вымушаны быў ездзіць у Мінск і праседжваць у бібліятэцы, штудзіруючы навуковую літаратуру, якую немагчыма было адшукаць у Гродне. «Сёння, калі нечага не ведаеш, дапаможа літаратура, папярэднікі дапамогуць, — гаварыў ён. — А тады папярэднікаў не было, бо яны ў пераважнай большасці былі рэпрэсаваныя ў 1930-я гады, і працы іх былі недаступныя»...

Зрэшты, мяне з Аляксеем Міхайлавічам пазнаёміў не Гродзенскі ўніверсітэт, а Рыгор Барадулін. Я тады працаваў над кнігай пра Васіля Быкава, і было б недаравальна не пабываць у Гродне, дзе жылі сведкі першых літаратурных крокаў Васіля Уладзіміравіча... Праз шмат гадоў прачытаю ва ўспамінах Аляксея Міхайлавіча пра тую нашу вандроўку: «У чэрвені 2005 года Рыгор Барадулін прыехаў у Гродна з Сяргеем Шапранам, які збіраў матэрыял для сваёй вядомай сёння кнігі "Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця...". Мы даўно не бачыліся і сардэчна абняліся. "Во, прывёз вам, гродзенцам, журналіста Сяргея Шапрана, які рыхтуе кнігу пра Быкава. Вы тут Шапрана не знаеце. Хлопец ён талковы, уедлівы. Трэба яму дапамагчы..." І я з Юркам Голубам ды яшчэ жонка Аляксея Карпюка Іна Анатольеўна доўга сядзелі ў музеі Максіма Багдановіча і адказвалі на пытанні Шапрана — распавядалі, што зналі пра Васіля Быкава. Барадулін цярпліва чакаў побач. То выходзіў, то зноў вяртаўся. Адчувалася, што для яго вельмі важна тое, што пачынаў рабіць Шапран».

## Свой Быкаў

Ён пазнаёміўся з Быкавым у далёкім 1957 годзе. Пяткевіч толькі прыехаў у Гродна, і яго настойліва цягнула назад, у Мінск, — гэтак сумна здавалася па першым часе ў горадзе над Нёманам. Пакуль аднойчы Мікола Арочка не спытаў: «Ну, як там Быкаў, Карпюк?» А Пяткевіч нават не быў знаёмы з абодвума пісьменнікамі-гродзенцамі. Зрэшты, не дзіва — Быкаў нядаўна вярнуўся з Далёкага Усходу і толькі пачынаў друкавацца. Гэткім чынам пазнаёміўшыся, Пяткевіч пачаў запрашаць пісьменніка на сустрэчы са студэнтамі.

— Мы амаль кожную яго аповесць абмяркоўвалі, — прыгадваў Аляксей Міхайлавіч. — Быкаў прыходзіў не толькі таму, што гэта было трэба, але і таму, што яму самому было цікава. Першая сустрэча была прысвечаная аповесці «Жураўліны крык». Быкаў быў апрануты ў кіцялёк ваеннага тыпу з англійскага сукна, якія тады ўсе насілі. Стройны, худзенькі. Пышная рыжаватая чупрына. Замкнуты і нелаверкі, сеў ціхенька... Ён, безумоўна, быў цікавы аўдыторыі. Але ў той час гэта было звыкла — Быкаў жа свой, ён тут жыве, у Гродне, па гродзенскіх вуліцах ходзіць! А вось калі ён пачынаў гаварыць... Выступаў звычайна ў канцы ў поўнай цішыні. Гаварыў нядоўга, як заўсёды не паспешліва. Гэта былі неардынарныя думкі, глыбокія і цікавыя. Па сутнасці, гэта былі ўрокі выхавання для студэнтаў — разважаючы аб канкрэтнай сітуацыі ў аповесці, Быкаў гаварыў, як трэба жыць.

## «Мясцовых аўтараў трэба падтрымліваць»

Між іншым, адна з першых літаратурных рэцэнзій на творы Васіля Быкава належыць Аляксею Пяткевічу. Выйшла яна ў «Гродзенскай праўдзе», дзе працаваў тады Быкаў. Зрэшты, вызначальным было не тое, што рэцэнзія тычылася «Трэцяй ракеты», а іншае: «Мясцовых аўтараў трэба падтрымліваць», — казаў Васіль Уладзіміравіч, які быў у «Гродзенскай праўдзе» літаратурным кансультантам і рэгулярна рабіў агляды дасылаемых у рэдакцыю твораў аўтараў Гродзеншчыны.

Калі ж выйшла аповесць «Мёртвым не баліць», Пяткевіч зноў выступіў з рэцэнзіяй, бо, на яго думку, новая аповесць Быкава была моцнай і трагедыйнай. Аднак не ў натуры Васіля Уладзіміравіча было выказваць захапленне — яго вылучала нешматслоўнасць, вось і гэтым разам ён толькі і сказаў: «Добра, што адгукнуліся. Дзякуй».

Тая рэцэнзія ледзь не каштавала Пяткевічу працы — ва ўніверсітэце праходзіў ідэалагічны сход, і сакратар Гродзенскага абкома партыі збіраўся лупануць па аўтары рэцэнзіі на «крамольную» аповесць, і толькі ўмяшанне рэктара ратавала маладога выкладчыка...

— Літаратурная крытыка ставілася да Быкава нармальна, — гаварыў Аляксей Міхайлавіч. — З боку крытыкаў-прафесіяналаў не было ніякіх сур'ёзных абвінавачванняў, былі толькі заўвагі чыста літаратурнага характару — гэта звычайная рэч. Лупілі яго пераважна па лініі афіцыёзу. Гэта быў, канешне, ідэалагічны заказ. І да тых ветэранаў, што найбольш дзяўблі яго, Быкаў ставіўся скептычна — гаварыў, што гэта пераважна штабісты, у якіх поўныя грудзі ўзнагарод, а сапраўдныя франтавікі ляжаць забітыя ў акопах...

Калі ж у ягонай кватэры пабілі вакно, Быкаў адразу патэлефанаваў: «Зайдзіце». Але не патлумачыў, з якой нагоды. Я прыйшоў, ён, правёўшы, паказаў — у акне была дзірка з трэшчынамі. «Адкуль гэта?» — «Невядома хто»... Ён быў вельмі ўзбуджаны, вельмі, я ніколі не бачыў яго такім. І сапраўды — калі ўжо вокны б'юць!.. Але пагаварыўшы, супакоіўся. Было відавочна, яму трэба было выгаварыцца...

## «Каб усе бачылі, які лёс напаткае таго, хто пойдзе супраць нас»

Калі былі рэпрэсаваны адзін з блізкіх быкаўскіх сяброў — Барыс Клейн, Быкаў ізноў адразу пазваніў: «Давайце сустрэнемся».

Ва ўладных структурах былі перакананыя, што менавіта пісьменнік Аляксей Карпюк і гісторык Барыс Клейн негатыўна ўплываюць на Быкава, і таму абодвух было вырашана «нейтралізаваць»: Карпюк колькі месяцаў заставаўся без працы, на яго нават была заведзена крымінальная справа за нібыта супрацоўніцтва з нацыстамі ў часе вайны; Клейну ж было прапанавана ўдзельнічаць у кампаніі па выкрыцці сіянізму, але ён адказаў адмовай. У выніку ён быў звольнены з выкладчыцкай працы і пазбаўлены вучонай ступені і звання, былыя калегі перабягалі на іншы бок вуліцы, каб, крый божа, не павітацца з апальным навукоўцам. Барыс Самуілавіч хацеў з'ехаць у Ленінград, аднак другі сакратар Гродзенскага абкома партыі Фамічоў папярэдзіў: калі Клейн працаўладкуецца ў Ленінградзе, будзе званок з Гродна, і яго адразу звольняць. «Паколькі ўсё ў мяне ўжо адабралі, значыць, я вам тут больш не патрэбны», — запярэчыў Клейн. «Не, вы патрэбны: вы будзеце маячыць на гродзенскіх вуліцах, як цень. Каб усе бачылі, які лёс напаткае таго, хто пойдзе супраць нас».

І вось цяпер Быкаў патэлефанаваў Пяткевічу...

— Мы гулялі па вуліцы, у Быкава дрыжэлі рукі, — згадваў Аляксей Міхайлавіч. — Ён расказваў, якім менавіта чынам збіраўся матэрыял на Клейна — запісы размоў рабіліся ў парку, у рэстаране, дома — запісвалі ўсюды! Мы доўга тады хадзілі. Як я разумею, яму трэба было выгаварыцца. Я першы раз бачыў Быкава такім разгубленым. Гэта мяне ўразіла. Ён вельмі перажываў. Клейн быў яго сябрам. Да таго ж Быкаў быў уражаны падрыхтаванасцю сістэмы да высочвання людзей. Да гэтага часу ён нават не ўяўляў, што інфармацыю можна збіраць настолькі масіравана...

## «Са схіленым чалом»

Між іншым, менавіта дзякуючы Быкаву Пяткевіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Хоць сам ён пра гэта не думаў, але Быкаў аднойчы патэлефанаваў: «Будзеце ў Саюз пісьменнікаў уступаць!» Ужо ў часе прыёму Іван Мележ запытаўся: «Ну што ж, Аляксей Міхайлавіч, як вы дайшлі да жыцця такога?» Пяткевіч азірнуўся на Быкава, які маўчаў і толькі ўсміхаўся...

Зрэшты, пасады загадчыка кафедры Пяткевіч усё-такі быў пазбаўлены. Ішоў 1974 год. Гэта была гучная справа, калі КДБ «выкрыў» групу дзяржаўных «злачынцаў-нацыяналістаў», якая складалася пераважна з супрацоўнікаў Акадэміі навук і якая ў далейшым атрымала назву «акадэмічны асяродак». У «змоўшчыкі» былі запісаныя літаратуразнаўцы Мікола Прашковіч і Валянцін Рабкевіч, археолаг Міхась Чарняўскі, мастацтвазнавец Сцяпан Міско, мовазнавец Алесь Каўрус і — Аляксей Пяткевіч. Галоўнае абвінавачванне — нацыяналізм. Кадэбісты хацелі далучыць да справы і Уладзіміра Караткевіча, але безвынікова.

— Тады была рэпрэсавана група навукоўцаў, у тым ліку я, — згадваў Аляксей Міхайлавіч. — Адзін з тых, хто падтрымаў мяне, быў Быкаў. Ён сказаў, што трэба трымацца і трэба пісаць па-будучае. «Пакінулі вас на працы — і дзякуй богу, — гаварыў. — Сістэма не можа без таго, каб не пераследаваць людзей. Гэта нармальная рэч ва ўмовах савецкай сістэмы. Пішыце. Усё стабілізуецца».

Васіль Уладзіміравіч не памыліўся — так яно ўрэшце і сталася. Аляксей Міхайлавіч не толькі застаўся працаваць ва ўніверсітэце, але пазней узначаліў кафедру беларускай культуры, якая была створана дзякуючы ў тым ліку яго намаганням...

Гэткім чынам, годна пражываючы сваё жыццё, ён быў і застаецца адным з найвядомейшых гродзенскіх інтэлектуалаў. Невыпадкова Васіль Быкаў не толькі дзякаваў яму, але і называў аднадумцам і сябрам. «Галоўнаму нашаму крытыку і парадачнаму чалавеку», — гэтак падпісаў Пяткевічу Аляксей Карпюк адну са сваіх кніг. А Ларыса Геніюш узнёсла казала пра яго як пра самага вартага і дарагога яе сэрцу беларуса. У сваю чаргу Рыгор Барадулін, называючы Аляксея Міхайлавіча «апорай нашай крэўнай культуры», пакінуў такі дарчы надпіс: «Роднаму й мудраму, трапяткому й мужнаму Аляксею М. Пяткевічу — дзякуй за ўсё гады ягонае апекі й спагады! Са схіленым чалом — Рыгор Барадулін». І напісаць так у народнага паэта былі свае падставы. Аднак гэта ўжо зусім іншая гісторыя.



**Гродна, 2005 год. На прыступках Музея Максіма Багдановіча. Злева направа: Сяргей Шапран, Аляксей Пяткевіч, Рыгор Барадулін, Іна Карпюк з дачкой Валянцінай; у другім шэрагу: Юрка Голуб, дырэктарка Музея Максіма Багдановіча Алена Гайко, Валерый Задаля. Фота Андрэя Палуды**

# Подзвігі па раскладзе: у беларускім футболе прынялі канцэпцыю барона Мюнхгаўзена

Сяргей КАЙКО

**Ёсць тры рэчы, на якія можна глядзець бясконца: як гарыць агонь, як цячэ вада — і як у беларускім футболе будуюць паветраныя замкі. Як складаюць мудрагелістыя стратэгіі развіцця, прапісваюць наперад цудоўныя паказчыкі, плануюць зачаравальныя штурмы ззяючых вяршынь... Па-манілаўску моршчаць ілбы і замілавана глядзяць за далягляд. Па-пацёмкінску мараць пра малочныя рэкі і кісельныя берагі.**

На выхадзе — заўсёды адно і тое ж. У тэорыі, футбольная Беларусь мусіць навесці грандыёзнага шоргату і абавязкова ўварвацца ў шэрагі сусветнага бамонду. На практыцы — айчынны футбол дэградуе ўсё больш, журботна дрэйфуючы ў бок цьмяных мядзведжых завуголляў.

І чым далей ён дрэйфуе, тым з большымі імпэтам і размахам будуюцца новыя замкі. 25 сакавіка, акурат у Дзень Волі, Беларуская федэрацыя футбола прэзентавала чарговы. Ды такі, што грамадскасць войкнула і часткова страціла прытомнасць. Бо занадта ж напалеонаўскія памкненні агучылі амбіцыйныя кіраўнікі самага папулярнага віду спорту.

### Мацней за «Фауст»

На мінулым тыдні ў Доме футбола, што на праспекце Пераможцаў, прайшла справаздачная канферэнцыя БФФ. Звычайна руцінная мерапрыемства, куды дэлегаты з'язджаюцца, каб кожны раз праслухаць плюс-мінус адзін рэпертуар. Экскурс у нядаўняе мінулае — і тлумачэнні, чаму зноў не атрымалася забіць дастаткова галоў. І дыскурс пра светлую будучыню, дзе ўсё дакладна будзе інакш і лепей.

Так яно было б і гэтым разам. Паслухалі б, адзінагалосна прагаласавалі б па асноўных пунктах павесткі — дый раз'ехаліся, папярэдне падсілкаваўшыся на традыцыйным фуршэце. Аднак рэчаіснасць пераўзышла самыя смелыя чаканні. Федэрацыя на чале з палкоўнікам ад артылерыі Уладзімірам Базанавым выкаціла на ўсеагульны агляд канцэпцыю развіцця футбола ў краіне да 2028 года. Цэлы «талмуд», таўшчыні якога — больш за сотню старонак — пазайздросціў бы нават раманіст Віктар Марціновіч.

Не будзем аналізаваць усю гэтую творчую плынь, і тым больш цытаваць асабліва трапныя фармулёўкі прэзентаванага «плана Маршала». Не будзем і надта кпіць з таго, што ў стратэгіі–2021/2028 беспрэцэдэнтна заўважнае месца заняў ідэалагічны складнік — маўляў, бракуе нашым футбалістам «адзінага патрыятычнага духу», а тое б даўно ўсіх парвалі на лапікі.

Гэта ўсё вельмі банальна, бо ў нас жа так паўсюль: як нешта ідзе не так, то, канешне, патрэбны палітрук з палымянымі позіркам. Каб патлумачыў міжнародную абстаноўку, навучыў любіць радзіму і спяваць гімн, распавёў пра ўнутраных і знешніх ворагаў. Гэтым ужо нікога не здзівіш. Вунь Наталля Качанава цытуе студэнтам вытрымкі з легендарнага плану Далеса. То на гэтым злавесным фоне ўстаноўкі БФФ абстрактна патрыятычнага кшталту (кшталту «гуляць за краіну» альбо «падвышаць ідэалагічны ўзровень гульцоў») выглядаюць яшчэ даволі дыетычна. Маглі б і больш пашчыраваць на гэтай жыватворнай ніве.

Галоўнае ж, што зрабіла «дарожную карту» ад БФФ мацнейшай за «Фауста» Гётэ, палягае ў іншым. Не ў ідэалагічнай плоскасці, а строга ў практычнай. Як выявілася, у канцэпцыі развіцця старанна прапісаныя вынікі, якіх у бліжэйшыя гады павінны дасягнуць беларуская зборныя.

Вынікі такія, што галава кружыцца ад будучых поспехаў, пачынаецца ўжо цяпер.

### Усе хады запісаныя

Дык што ж гэта за памкненні па пакарэнні футбольнага космасу? Загінайце пальцы. Пачнём з галоўнага — з сацабавязацельства, якія наканавана выканаць нацыянальнай зборнай Беларусі.

Вы, вядома, памятаеце, што ў апошніх адборачных турнірах да чэмпіянатаў свету і Еўропы беларусы спрэс фінішавалі ў хвасце сваіх кваліфікацыйных груп. Ці апошнімі, ці перадапошнімі, ці трэцімі з канца — карацей, на аўтсайдарскіх прыступках, саступаючы грандам-фаварытам часцяком з буйным лікам і без аніякіх шанцаў. Дык вось: росчыркам пяра ў офісе федэрацыі гэтай практыцы пакладзены рашучы канец. Адсюль і далей мы будзем гуляць па-іншаму — і перамагаць.

Ужо ў бягучым розыгрышы, які беларуская зборная распачала натужлівай дамашняй перамогай над другім складам Эстоніі (першы неспадзявана злёг ад каронавіруса), нам патрэбна заняць месца не ніжэй за другое. І, адпаведна, выйсці ў плэй-оф, каб пазмагацца за пуцёўку на Чэмпіянат свету–2022.

Стаць другімі ў групе, дзе сярод супернікаў Бельгія (1-е месца ў сусветным рэйтынгу), Уэльс (18-е) і Чэхія (42-е), — гэта, па меншай меры, подзвіг. Ужо таму, што мы ў тым самым рэйтынгу сталіся, як тыгр перад скачком, аж на 88-й пазіцыі. Стаць другімі, згодна з афіцыйнымі дэкларацыямі БФФ, — гэта яшчэ і подзвіг паводле раскладу, як у барона Мюнхгаўзена.


Фота www.abff.by

**Уладзімір Базанаў: у 2028 годзе паляцім у космас**

| Год | Соревнование | Результат, место |
|---|---|---|
| 2021 | Квалификация к ЧМ 2022 | Выход в плей-офф квалификации |
| 2022 | Лига наций УЕФА 2022 | 1-е место в дивизионе («С») |
| 2023 | Квалификация к ЧЕ 2024 | Выход в плей-офф квалификации |
| 2024 | Лига наций УЕФА 2024 | Не ниже 3-го места в див. («В») |
| 2025 | Квалификация к ЧМ 2026 | Выход в плей-офф квалификации |
| 2026 | Лига наций УЕФА 2026 | Не ниже 3-го места в див. («В») |
| 2027 | Квалификация к ЧЕ 2028 | Выход в финальную стадию |
| 2028 | Лига наций УЕФА 2028<br>ЧЕ 2028 | Не ниже 3-го места в див. («В»)<br>17-22-е место |

**Запланаваны подзвіг зборнай Беларусі**

Гучыць дзіўна? Падаецца блазнотай і палётам хваравітай фантазіі? То прышпіліце рамяні — рухаемся далей.

Цяпер выхад у плэй-оф з другога месца будзе ніжэйшай мяжой у выступах зборнай Беларусі. Ля яе, гэтай мяжы, яна перакантуецца яшчэ дзве кваліфікацыі (ЧЕ–2024 і ЧС–2026), каб затым, атрымаўшы ад кіраўніцтва зарад бадзёрасці і рашучасці, сігануць яшчэ вышэй. І трыумфальна, упершыню ў гісторыі, прабіцца на топ-турнір — паехаць на чэмпіянат Еўропы ў 2028 годзе.

Ну, а што? Усё на паперы пад пячаткай. Як у таго аднавокага шахмаціста, усе хады запісаныя. Кантора піша.

### І жанчыны таксама

Спусцімся ніжэй па сходнях нацыянальнай футбольнай іерархіі. І заўважым, што ў маладзёжнай зборнай абяцанкі-цацанкі такія ж неверагодныя. Спачатку хлопцы, не старэйшыя за 21 год, рэзка палепшаць вынікі адборачных турніраў, потым патрапяць у фінальную стадыю чэмпіянату Еўропы, і нарэшце — бі, барабан! — заваююць права на ўдзел у Алімпійскіх гульнях. Паводле фантазійнай канцэпцыі, гэта здарыцца ў тым жа 2028-м годзе, калі, мяркуючы па ўсім, беларусы зайграюць у футбол як бразільцы.

Так, на Гульні наша «маладзёжка» ўжо ездзіла — у 2012-м. Тады, праўда, загадзя закладваць такія поспехі ў перспектыўныя планы саромеліся, бо маветон, дый людзі засмяюць. Але ж часы змяніліся, то далоў ілжывую сціпласць. І не бяда, што за апошні дзясятак гадоў на маладзёжным узроўні беларускі футбол зусім загібеў. Што даўно ўжо боўтаецца на мелкаводдзі, не прэтэндуючы ані на якія дасягненні. І што не далей, як у верасні, «маладзёжка» ганебна «згарэла» ў Жодзіне галандцам з нефутбольным лікам 0:7.

Не бяда, бо тады ж у нас ровара не было, як у паштальёна Печкіна. Цяпер ровар нашы офісныя кулібіны вынайшлі, то і справа будзе ладзіцца. Нягледзячы нават на тое, што ў гэты панядзелак беларуская каманда U-21 ужо паспрабавала рухацца ў рэчышчы новай амбітнай стратэгіі — ды прайграла «ў адну касу» таварыскі матч грузінскім аднагодкам 1:4.

Ну і, нарэшце, згодна з канонамі гендарнай роўнасці, зазірнем, што там рыхтуе будучыня для жаночай зборнай. Ды ўсё тое ж квітненне, ружовыя мары і ружавыя пахі.

Гэта цяпер нашы дзяўчаты прайграюць нарвежкам 1:7 і фінішуюць другімі з канца. Гэтую старонку вырашана перагарнуць, а далей — толькі наперад і з песняй. У трох бліжэйшых кваліфікацыях беларускі абавязкова не апусцяцца ніжэй за другое месца ў групе, а потым — так-так, у гераічным 2028-м — здабудуць права на ўдзел у чэмпіянаце Еўропы.

### Рэжым крутога мэна

Барон Мюнхгаўзен быў чараўнік, і мог сабе дазволіць подзвігі паміж абедам і вячэрай. Нашы ж спартыўныя функцыянеры да Гары Потэра, мякка кажучы, не падобныя. Дык што за муха іх укусіла ці што за воўк здох у лесапаласе за Домам футбола, калі шматпакутнаму беларускаму футболу кіраўнікі раптам напрагназавалі поўныя порткі гістарычных перамог?

У нас вырасла геніяльнае пакаленне гульцоў? З'явіліся трэнеры калібру Гвардзёлы і Мурыньо? Ці на запрашэнне таго ж Гвардзёлы знайшліся грошы, і ён назаўтра прыедзе і ўсіх навучыць?

Не, не і яшчэ раз не. Ніякіх матэрыялістычных перадумоваў для футбольнага прарыву ў Беларусі не спарадзілася. Як траплялі нашы хлопцы (не ў крыўду) па мячы цераз раз — так і дагэтуль трапляюць. Федэрацыя кідаецца гучнымі лозунгамі з іншай прычыны. Дакладней — з некалькіх прычын, пра якія няцяжка здагадацца.

Па-першае, блеф — гэта ўласцівасць прэферансістаў. Чым болей ты ўчора прайграў, тым болей ты сёння мусіш блефаваць. Цяперашняя адміністрацыя БФФ у мінулым годзе прайграла ўсё, што было нажытае непасільнай працай. Клубы праваліліся ў еўракубках, «маладзёжка» праваліла адбор, нацыянальная зборная — і гэта галоўнае — ушчэнт скандфузілася ў стыкавым матчы з грузінамі за льготную пуцёўку на EURO праз Лігу нацый. Логіка прэферанса выбару тут не пакідае: трэба блефаваць і абяцаць адыграць усё, і нават з запасам. Каб мала нікому не падалося.

На прафесіяналаў з футбольнага грамадства такі танны папулізм наўрад ці зрабіў моцнае ўражанне. Аднак фокус у тым, што ад меркавання прафесіяналаў у нас мала што залежыць (і не толькі ў футболе). Кіраўніцтвы БФФ шмат гадоў калі не прызначаецца, то ўзгадняецца ў адміністрацыі Лукашэнкі, а там аглушальныя заявы любяць.

Тым больш — па-другое — такія манеры ўвогуле лёгка ўпісваюцца ў сённяшні стэрэатып паводзінаў вышэйшых чыноўнікаў. Гэты стэрэатып можна назваць проста: рэжым крутога мэна. А круты мэн нікому спуску не дае.

Таму, калі рабіць уласную вакцыну ад каронавірусу — то абавязкова лепшую ў свеце. Калі пагражаць пратэстоўцам — то ўсім да аднаго, і добра, калі адміністрацыйнай адказнасцю. Калі пікіравацца з амбасадай ЗША, то, безумоўна, са здзеклівай прапановай дапамагчы з сельскай гаспадаркай у Алясцы.

Дык і з футболам пад гэтую дудку самы час замахнуцца на Вільяма нашага Шэкспіра. Добра кладзецца ў трэнд. Як гэта яшчэ Акадэмія навук не пабажылася штурманаць Нобелеўку ў бягучай пяцігодцы, а новая трупа Купалаўскага — парваць Брадвей у наступным сезоне?

Гаварыць лозунгамі ў парадыгме ненахіляльнасці — гэта ў стылі крутога мэна. Галоўнае пры гэтым — не зважаць, як іншыя ў той жа час спакойна і немітусліва робяць справу і пакрысе прагрэсуюць. І чатырохмільённая Харватыя становіцца другой на чэмпіянаце свету — а такія ж невялікія Албанія, Ісландыя, Уэльс, Фінляндыя, Македонія і іншыя дасягаюць топавага ўзроўню.

Без аніякіх канцэпцый, стратэгій і іншых пантоў.

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай або адправіць яму грашовы перавод да свята. Магчыма, хтосьці захоча даслаць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго надрукавалі. У гэтым нумары пачынаем расказваць пра тых вязняў, дні народзіны якіх у красавіку.**

## 1 красавіка

22 гады споўнілася **Дзянісу Дземуху.** Ён быў затрыманы 4 кастрычніка пасля «Маршу вызвалення палітвязняў». Пасля адбыцця 13 сутак адміністрацыйнага арышту яго не адпусцілі, а абвінавацілі па арт. 342 КК. У судзе Заводскага раёна Мінска 9 сакавіка літаральна за некалькі гадзін была разгледжаная крымінальная справа супраць Дзяніса. Суддзя Алег Каляда прызнаў яго вінаватым і прысудзіў 1 год і 6 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.



Адрас для лістоў: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 3 красавіка

Дзень народзінаў у **Віктара Куўшынава.** Ён быў затрыманы 2 верасня. У дзень затрымання Віктара ў мінскім офісе кампаніі PandaDoc, а таксама ў прыватных кватэрах некаторых яе супрацоўнікаў, адбылісяператрусы, якія праводзіліся супрацоўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю.

Заснавальнік кампаніі PandaDoc Мікіта Мікада пасля падзеяў 6–11 жніўня запусціў



ініцыятыву Protect Belarus для дапамогі супрацоўнікам сілавых ведамстваў, якія пазбавіліся працы з-за адмовы выконваць злачынныя загады. За гэты час ініцыятыве даслалі больш за 500 заявак на такую дапамогу, а некаторыя з такіх гісторый атрымалі шырокі грамадскі рэзананс.

11 верасня Віктару Куўшынаву было прад'яўлена абвінавачванне па ч. 4 арт. 209 КК (Махлярства, здзейсненае арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры).

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

## 4 красавіка

Сваё 25-годдзе сустрэне **Віктар Андрэевіч Шмігельскі** — удзельнік акцыі пратэсту ў Жлобіне 9 жніўня.

На яго была заведзеная крымінальная справа паводле



артыкулаў 342 КК і 364 КК (Гвалт у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі).

22 сакавіка суд Жлобіна вынес Віктару Шмігельскаму прысуд: 2,5 года пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.

## 6 красавіка

**Вольга Аляксееўна Філатчанкава** — выкладчыца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, асістэнтка кафедры ПЗІТ. Удзельніца відэазвароту выкладчыкаў БДУІР супраць гвалту, брала ўдзел у забастоўцы.

Была затрыманая 12 лістапада, у гэты ж дзень у яе дома быў праведзеныператрус.

Вользе прад'яўлена абвінавачанне па арт. 342 ч. 1 КК РБ. Спа-



чатку яе змясцілі пад варту ў СІЗА КДБ, затым перавялі ў СІЗА-1.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Сваё 20-годдзе сустрэне **Ілля Мікалаевіч Тананка** — студэнт МДЛУ, асуджаны на паўтара года «хіміі» за абразу палкоўніка міліцыі, начальніка АМАПу Мінска Дзмітрыя Балабы.

Хлопца абвінавацілі ў тым, што ён напісаў на сцяне дома па вуліцы Скрыпнікава, дзе пражывае палкоўнік міліцыі Дзмітрый Балаба, «Балаба — забойца», чым публічна абразіў прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў. Была распачата крымінальная справа па арт. 369 КК (Абраза прадстаўніка ўлады). Суддзя Андрэй Млечка 26 лістапада вынес хлопцу прысуд — паўтара года абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Таксама суд абавязаў студэнта выплаціць тысячу рублёў кампенсацыі за маральную шкоду.

13 сакавіка Ілля Тананка адправіўся адбываць пакаранне ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпа №9 у Віцебску.

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпа №9. 210034, г. Віцебск, вул. 3-я Чэпінская, 39.

## 11 красавіка

Дзень народзінаў у **Сцяпана Сяргеевіча Латыпава** — арбарыста і дырэктара кампаніі «Беларбо», жыхара дома каля «Плошчы Перамен» (Смаргоўскі тракт, 1) у Мінску.

Быў затрыманы 15 верасня ў двары жылога масіву па вуліцы Чарвякова ў Мінску супрацоўнікамі АМАПу. У яго кватэры адбыўсяператрус.

Пазней з'явілася інфармацыя, што Сцяпан Латыпаў затрыманы ў якасці падазраванага па крымінальнай справе па арт. 293 Крымінальнага кодэксу (масавыя беспарадкі). 19 верасня ў эфіры некалькіх дзяржаўных тэлеканалаў быў прадэманстраваны сюжэт, дзе сцвярджалася, што Сцяпан Латыпаў падазраецца ў арганізацыі незаконнага каналу пастаўкі ў краіну небяспечных хімікатаў і меў намер выкарыстаць атрутныя рэчывы супраць супрацоўнікаў міліцыі.

Сцяпану Латыпаву было прад'яўлена абвінавачанне. Ён застаецца пад вартай у СІЗА-1. Апошнім часам, нягледзячы на тое, што шмат людзей пішуць Сцяпану, лісты да яго амаль не даходзяць.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 14 красавіка

Свой 29-ы дзень народзінаў сустрэне **Рыгор Аляксандравіч Саладоўнікаў** — жыхар Маладзечна. Яго затрымалі 22 лістапада ў межах крымінальнай справы за перакрыццё вуліцы Вялікі Гасцінец.

Рыгору Саладоўнікаву выставілі абвінавачанне па крымінальным артыкуле за арганізацыю групавых дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак і пацягнулі парушэнне работы транспарту (арт. 342 КК РБ).

Спачатку ўтрымліваўся ў ІЧУ Маладзечна, затым пераведзены ў СІЗА Жодзіна.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.




# Хай будзе шмат падстаў для шчасця!

Кацярына Барысевіч была затрыманая 19 лістапада ў сувязі з крымінальнай справай аб нібыта раскрыцці медыцынскай таямніцы збітага да смерці Рамана Бандарэнкі (ч. 3 арт. 178 КК ). Яна прывяла ў артыкуле словы лекара пра адсутнасць у крыві Рамана алкаголю, што супярэчыла заявам прадстаўнікоў уладаў.



2 сакавіка суддзя Святлана Бандарэнка пакарала Кацярыну 6 месяцамі калоніі і штрафам у 2900 рублёў. Пракуратура горада Мінска падала пратэст на прысуд у дачыненні да Барысевіч «з-за мяккасці прызначанага пакарання». Апеляцыя прызначана на 20 красавіка.

А **2 красавіка** Кацярына адзначыць за кратамі свой дзень народзінаў. Калегі, сябры і родныя перадаюць свае віншаванні. Да ўсіх цёплых словаў далучаецца і рэдакцыя НЧ.

— Што пажадаць чалавеку, у якога ёсць так шмат — неверагодная сіла волі, уменне бачыць прыгожае сярод жудаснага, смеласць і сіла? Мы жадаем табе свабоды і магчымасці проста быць шчаслівай у мірнай краіне.

— Ты часта пішаш у лістах пра сонца, якое прабіваецца скрозь хмары падчас прагулак у турэмным дворыку, колерах з роднай вёскі, якія сняцца, і кнігах, якія дапамагаюць перанесціся з камеры ў іншы свет. Хай жа хутчэй свет з квітнеючымі садамі і любімай дачкой побач стане для цябе рэальнасцю. Хай будзе шмат падстаў для шчасця! Мы вельмі чакаем цябе, Каця, — і павыкупляем усе кветкі Камароўкі! Мы вельмі рады, што ты ў нас ёсць!

**Родныя, сябры і вялікая рэдакцыя TUT.BY**







Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №545

Падпісана да друку 01.04.2021. 8.00. Наклад 6600 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.